5 верасня 2014 | № 33 (402)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**На што пакрыўдзілася Астана**

стар. 12



# Адарвалі мішку лапу

## ЕАЭС можа спыніць сваё існаванне, нават не пачаўшы дзейнічаць



Сяргей ПУЛЬША

Пуцін усё ж сапсаваў сваю любімую цацку — Еўразійскі эканамічны саюз, і зараз спрабуе яго злёгку паднавіць. На перамовах «Мытны саюз — Украіна — ЕС» ён не атрымаў жаданай падтрымкі сваёй пазіцыі ад Казахстана і Беларусі і моцна раззлаваўся. Яго эмацыйныя выказванні могуць паставіць крыж на гэтым праекце.

Шмат хто ў беларускіх інтэлектуальных колах быў перакананы, што пасля Украіны Пуцін возьмецца за сілавое далучэнне да Расіі нашай «сінявокай». Але падобна на тое, што пасля Украіны надыдзе чарга Казахстану. Бо найвялікшую свінню кіраўніку Расіі на мінскім саміце падклаў усё ж Нурсултан Абішавіч Назарбаеў. Пакуль Аляксандр Рыгоравіч сціпла маўчаў, Назарбаеў запэўніў украінскага прэзідэнта Пятра Парашэнку, што не бачыць аніякай небяспекі ад падпісання Украінай асацыяцыі з ЕС. Больш за тое, Назарбаеў прапанаваў стварыць фонд падтрымкі Украіны, якой трэба будзе ўзнаўляць сваю эканоміку пасля вайны.

Такі дэмарш выбіў Пуціна з каляіны і справакаваў на даволі рэзкія выказванні. 29 жніўня Уладзімір Уладзіміравіч прыбыў на чарговы маладзевы форум «Селігер», дзе і паведаміў, што кіраўнік Казахстана — «унікальны чалавек», бо «стварыў дзяржаву на тэрыторыі, на якой дзяржавы не было ніколі». А яшчэ днём раней лідар ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі заявіў у эфіры радыёстанцыі «Эхо Москвы», што Расія пасля Украіны павінна звярнуць увагу на Казахстан. Там, на ягоную думку, назіраюцца значныя антырасійскія настроі. «Ва ўсіх новых падручніках у Казахстане ўсюды антырускія настроі. Хоць Расія Казахстан не заваёўвала, а прыйшла на дапамогу, бо казахаў выразалі джунгары», — адзначыў ён.

Здавалася б, Жырыноўскі можа мець сваё меркаванне, тым больш, што Казахстан — якраз у напрамку Індыйскага акіяна, дзе, паводле Жырыноўскага, кожны рускі салдат мусіць памыць свае боты. Аднак усе ўжо прызвычаіліся: што ў Жырыноўскага на языку, тое ў Пуціна ў розуме. І таму Нурсултан Абішавіч адрэагаваў на пагрозы адэкватна, заявіўшы ў адказ, што Казахстан можа і выйсці з Еўразійскага эканамічнага саюза. «Астана ніколі не будзе ў складзе арганізацый, якія ствараюць пагрозу незалежнасці Казахстана. Наша незалежнасць — самы дарагі скарб, за які змагаліся нашы дзяды. Мы зробім усё магчымае, каб абараніць яе», — заявіў Назарбаеў.




Потым ад адказных асобаў Казахстана паступілі тлумачэнні: зараз Казахстан не разглядае пытання аб выхадзе з пагадненняў пра ЕАЭС, але калі з'явіцца пагроза незалежнасці — то выбачайце.

Такая «спрэчка ў шляхетным сямействе» адбылася яшчэ і на тым фоне, што дамова аб ЕАЭС, падпісаная Назарбаевым, Пуціным і Лукашэнкам напрыканцы мая гэтага года, яшчэ не ратыфікаваная парламентамі краінаў. Немаведама, як да выказванняў Пуціна паставіцца казахскія Меджліс і Сенат (у іх таксама двухпалатны парламент).

Наўрад ці ў Казахстане не ведаюць, з чаго пачыналася анексія Крыму і ўвогуле расійска-ўкраінскі ўзброены канфлікт. «Украіна — гэта нават не дзяржава! Што такое Украіна? Частка яе тэрыторый — гэта Усходняя Еўропа, а частка, і значная, падараваная намі», — сказаў Пуцін Джорджу Бушу 4 красавіка на закрытай сустрэчы «Расія — NATO» ў Бухарэсце. Зараз амаль тое ж самае Пуцін кажа ў дачыненні да Казахстану.

> **ЕАЭС сапраўды «любімая цацка» Уладзіміра Уладзіміравіча, у якую можна граць, нават калі «адарвалі мішку лапу»**

Нурсултан Абішавіч заявіў пра выхад Казахстану з ЕАЭС як пра «верагоднасць», а не як пра прынятае рашэнне. Бо і выходзіць пакуль яшчэ няма адкуль — ЕАЭС яшчэ не запрацаваў. Тым не менш, Пуцін пачуў пра такую магчымасць. Але ЕАЭС сапраўды «любімая цацка» Уладзіміра Уладзіміравіча, у якую можна граць, нават калі «адарвалі мішку лапу». Зразумела, што без Казахстана ЕАЭС не поўны, але Пуцін усё адно яго не кіне.

Найперш, Пуцін на гэтым тыдні тэрмінова ўнёс дамову аб Еўразійскім эканамічным саюзе на ратыфікацыю ў Дзярждуме, — пакуль Казахстан не адваліўся. З іншага боку, ён пачаў не менш тэрмінова шукаць «мішкін пратэз» — замену Казахстану ў ЕАЭС. І знайшоў.

Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, Пуцін даручыў ураду РФ падпісаць дамову аб далучэнні Арменіі да Еўразійскага эканамічнага саюза. Невядома, ці кансультаваўся Уладзімір Уладзіміравіч па гэтым пытанні з Лукашэнкам або Назарбаевым, але падаецца, што не. Таму што да Арменіі шмат пытанняў. Па-першае, яна не ўваходзіць у Мытны саюз Расіі, Казахстана і Беларусі, а значыць, і да ЕАЭС ёй яшчэ расці і расці. Па-другое, Арменія мае нявырашаную тэрытарыяльную праблему з Азербайджанам — Нагорны Карабах. Прымаць яе ў ЕАЭС проста небяспечна з-за магчымага канфлікту з Азербайджанам па тэрытарыяльным пытанні.

Карацей, сам Уладзімір Пуцін закладае пад свой жа праект «аб'яднання земляў» (хоць у нейкіх маштабах СССР) міну запаволенага дзеяння. Беларусі ў гэтай сітуацыі лепш за ўсё пачакаць з ратыфікацыяй пагаднення пра ЕАЭС: хай там рускія разбяруцца з казахамі, а армяне — з азербайджанцамі. Калі яно рване, дык хоць нас не зачэпіць, а калі не рване — то і добра.

Да таго ж, «падключэнне» да ЕАЭС Арменіі таксама патрабуе «карэкціровак курсу». Пад гэтым соўсам ратыфікацыю можна і адкласці — як мінімум на год. А там паглядзім.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

### 4 мільярды долараў

На пагашэнне і абслугоўванне знешняга дзярждоўгу Беларусі ў 2015 годзе плануецца накіраваць $ 4 млрд. Аб гэтым заявілі на пасяджэнні Прэзідыума Савета міністраў, дзе разглядаўся праект рэспубліканскага бюджэту на наступны год. Нават не вельмі эканамічна адукаваныя людзі адразу звярнулі ўвагу на тое, што крыніцы такой сумы прагучалі не ўсе. На пагашэнне знешняга дзярждоўгу плануецца накіраваць паступленні ад экспартных пошлін на нафтапрадукты ў суме $ 1,5 млрд. і мытных пошлін ад экспарту сырой нафты ў суме $ 582 млн.», — гаворыцца ў заяве ўраду. Разам атрымліваецца 2 млрд., а трэба — 4. Цікава, з чаго (ці каго) яшчэ 2 млрд. збіраюцца выціснуць? У любым выпадку, у праекцы на бюджэт гэта лічба выглядае вельмі цікава. Даходы бюджэту РБ на гэты год (лічба на будучы год пакуль не траплялася) вызначаны ў памеры прыкладна 13 мільярдаў долараў. 2 млрд. ад 13 млрд. складзе 15,38%, то бок каля 15% бюджэту–2015 сыдзе крэдыторам (а калі курс пойдзе ўгору, дык і ўсе 20). Вось такая ў нас залежнасць ад крэдытораў. Увогуле, знешні дзяржаўны доўг РБ складае больш за $ 13 млрд.

### 13 працэнтаў



Павышэнне стаўкі падаходнага падатку з 12% да 13% прадугледжана ў праекце закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Падатковы кодэкс Беларусі. Гэтыя і іншыя меры ў галіне падатковай палітыкі ў 2015 годзе накіраваныя на забеспячэнне стабільнасці падатковай сістэмы і павышэнне ўстойлівасці бюджэту. Напярэдадні Аляксандр Лукашэнка паведаміў пра магчымасць павелічэння стаўкі падаходнага падатку да 13% з мэтай дапамогі сем'ям і стымуляцыі нараджальнасці. Няма сумневаў, што дэпутаты ўхваляць павышэнне стаўкі. А вось наконт таго, што грошы пойдуць на падтрымку сем'яў, ёсць шмат пытанняў. На думку эканамістаў, падтрымка для шматдзетных сем'яў з пункту гледжання эканамічных разлікаў і заяўленых схем рэалізацыі праграмы «Вялікая сям'я» выглядае хутчэй спробай забяспечыць фонды дзяржаўнага Банка развіцця, што курыруе праграму, таннымі грашыма.

### 406 тысяч рублёў

Падарунак да 1 верасня беларускім настаўнікам зрабіў урад. Саўмін прыняў пастанову аб павелічэнні тарыфных ставак педагогам, выхавальнікам дзіцячых садкоў і іншым работнікам сістэмы адукацыі. Памер прыбаўкі залежыць ад катэгорыі і кваліфікацыі канкрэтнага спецыяліста, аднак у сярэднім аклад вырасце прыкладна на 406 тысяч рублёў. Як і варта было чакаць, на БТ толькі і размоў, што аб няспынным клопаце роднага ўрада, аб пільнай увазе, якая надаецца кіраўніцтвам дзяржавы справе школьнай адукацыі. Аднак калі меркаваць па інтэрнэт-форумах, рэчаіснасць іншая. У сеціве скардзяцца на тое, што павышэнне дэ-факта з'ела інфляцыя і т.зв. «аптымізацыя». Каб зразумець, што такое «аптымізацыя», трэба вырашыць задачу. На паралелі было 3 класа па 20 чалавек. Аптымізавалі да 2 класаў па 30 чалавек. Дзяржава эканоміць 3 млн. Затым яна ж аддае ў выглядзе павышэння заробку 1–1,2 млн. для двух настаўнікаў. Высновa: дзяржава атрымлівае прыбытак, а настаўнікі — дулю.

### 9 мільярдаў долараў



Столькі можа Беларусь атрымаць за кошт нішы, якая ўзнікла на расійскім рынку пасля сыходу адтуль украінскіх кампаній. Такую фантастычную лічбу агучыў дырэктар аналітычнага дэпартамента «Альпары» ў СНД Аляксандр Разуваеў. Пры гэтым толькі па выніках 2014-га «абаронка» і сельская гаспадарка могуць прынесці Беларусі 5 мільярдаў долараў дадатковай выручкі. Арыфметыка гіпнатызуе перш за ўсё ў кантэксце апублікаванай на мінулым тыдні статыстыкі міжнароднага гандлю РБ, у тым ліку з РФ. За першыя паўгады 2014-га экспарт на ўсход знізіўся на 5,9% у параўнанні з мінулым гадам. Адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі Беларусі за студзень-ліпень 2014 года ўвогуле склала 1 млрд. 370 млн. Наколькі рэальна зламаць гэты трэнд? Тым больш, што расіяне падазраюць, што за айчынным прадуктовым імпартам стаіць кантрабанда з краін ЕС і, мяркуючы па паведамленнях у СМІ, усё часцей блакуюць беларускія фуры.

## Больш няма беларускамоўных класаў

**Адзіны беларускамоўны клас у Баранавічах, дзе вучыліся ўсяго тры дзяўчынкі — Яся Малашчанка, Аліса Філіпчык і Вераніка Міхальчук — спыніў сваё існаванне.**

У сувязі з заканчэннем пачатковай школы СШ № 14 і са зменай жыхарства бацькі дзяцей спрабавалі працягнуць навучанне па-беларуску ў 5-м класе гімназіі №4, але безвынікова.

— Спачатку нам казалі, што ў гімназіі няма фінансавых магчымасцяў для адкрыцця беларускамоўнага класа, а затым, што неабходна пісьмовая згода не менш як 24 бацькоў навучэнцаў класа. Мы звярталіся да кіраўніцтва горада з мэтай захавання адзінага беларускамоўнага класа. Нядаўна, знаходзячыся ў сярэдняй школе № 40 Магілёва, намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік звярнуў увагу на неабходнасць папулярызацыі больш шырокага выкарыстання беларускай мовы ва ўстановах адукацыі. Аднак гарадскія ўлады нашу ідэю не падтрымалі, — паведаміла мама Ясі Таццяна Малашчанка.

Грамадская актывіста дадала, што Яся Малашчанка і Аліса Філіпчык цяпер будуць вучыцца ў рускамоўным 5А класе, і толькі матэматыка, сусветная гісторыя, а таксама прадмет «Чалавек і свет» будуць выкладацца для дзяўчынак на беларускай мове.

**spring96.org**

## Стыпендыя для вучобы ў Польшчы

**GFPS-Polska абвяшчае прыём заяваў на стыпендыю ў Польшчы на летні семестр 2015 года (сакавік-ліпень) для студэнтаў і выпускнікоў ВНУ з Беларусі. Дэдлайн — 31 кастрычніка 2014 года.**

Навукова-культурная стыпендыя, якую прысуджае GFPS-Polska і Фонд польска-нямецкага супрацоўніцтва, прызначана для асобаў, якія вылучаюцца добрымі вынікамі ў вучобе, з цікавымі праектамі і даследаваннямі.

Ад кандыдатаў мы патрабуем камунікатыўных ведаў польскай мовы (вуснай і пісьмовай), гатоўнасць актыўна ўдзельнічаць у навуковым, культурным і грамадскім жыцці акадэмічнай супольнасці ў час вучобы ў Польшчы. Вітаюцца кандыдаты, якія могуць пацвердзіць сваю дзейнасць у інтарэсах няўрадавых арганізацый, удзел у грамадзянскіх ініцыятывах або выдатныя навуковыя дасягненні (удзел у канферэнцыях, мерапрыемствах у навуковых колах).

**Што GFPS прапануе:**

- 5 месяцаў побыту ў адным з універсітэцкіх цэнтраў Польшчы;
- магчымасць працы над уласным навуковым ці культурным праектам;
- магчымасць наведвання заняткаў у найлепшых польскіх універсітэтах;
- апеку з боку лакальнай групы GFPS-Polska;
- удзел у трох семінарах — Днях гарадоў у Чэхіі, а таксама Форуме ў Польшчы;
- стыпендыю памерам 1450 злотых у месяц;
- сяброўскія стасункі і незабыўныя ўспаміны на ўсё жыццё.

**Неабходны набор дакументаў:**

- запоўненая анкета;
- матывацыйны ліст на польскай мове (не больш за 2 старонкі фармату А4, каля 1800 знакаў на старонку);
- план побыту ў Польшчы на польскай мове, які ўтрымлівае апісанне праекту, для ўдзелу ў стыпендыяльнай праграме (не больш за 2 старонкі фармату А4, каля 1800 знакаў на старонку);
- даведка з навучальнай установы з указаннем сярэдняга бала падчас усяго тэрміну навучання альбо копія дыплома аб вышэйшай адукацыі;
- сертыфікат або копію дакумента, які пацвярджае веданне польскай мовы на ўзроўні, які дазваляе свабодную камунікацыю.

Уся дакументацыя мусіць быць дасланая ў электронным выглядзе! Заяўкі і магчымыя пытанні неабходна дасылаць на адрас: stypendia-by@gfps.pl. Сумоўі з кандыдатамі, якія пройдуць першы этап адбору, адбудуцца на польскай мове ў Мінску ў пачатку лістапада.

**Падрабязнасці на сайце www.gfps.pl**

## Памяці Генадзя Бураўкіна

Марат ГАРАВЫ

**Вечарына памяці выбітнага паэта і грамадскага дзеяча прайшла 2 верасня ў мінскім Палацы мастацтваў.**

Імпрэза адбылася дзякуючы сумесным арганізацыйным высілкам Беларускага саюза мастакоў, Саюза беларускіх пісьменнікаў і актывістаў кампаніі «Гавары праўду».

Цёплымі пранікнёнымі словамі, вершамі, гісторыямі з жыцця сябра і паплечніка ўзгадвалі пісьменнікі, мастакі і музыкі. Са сцэны выступалі Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Уладзімір Арлоў, Георгій Ліхтаровіч, Уладзімір Някляеў, Зінаіда Бандарэнка, Уладзімір Сіўчыкаў, Сяргей Законнікаў, Віктар Казько, Рыгор Сітнік.

Паэт Уладзімір Някляеў зазначыў, што Генадзь Бураўкін быў грамадскім дзеячам і дыпламатам, але прыйшоў на гэты свет паэтам і паэтам з гэтага свету сышоў. «І гэта самая вялікая місія, якую ён выканаў на нашай роднай зямлі, за што яму будзе ўдзячнае не адно пакаленне беларусаў», — падкрэсліў Уладзімір Някляеў.

Паэт Леанід Дранько-Майсюк назваў Генадзя Бураўкіна «выдатным творцам з выдатнага пакалення, з той творчай прасторы, адкуль Уладзімір Караткевіч, Іван Чыгрынаў, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Міхась Стральцоў і Васіль Зуёнак — гэтыя дзеці вайны, якія добра ведалі, што такое жыццё побач са смерцю, што такое адсутнасць хлеба, і ўсё гэта гранічна шчыра выказалі ў сваіх творах. Менавіта з іх прыходам у нашу літаратуру ў 1950-я гады ў ёй адбылася сапраўдная эстэтычная рэвалюцыя, калі беларуская проза і паэзія набыла новую маштабнасць».

А паэт Васіль Зуёнак нагадаў, што жыццёвыя сцежкі яго і Генадзя Бураўкіна з'яднаў знакаміты дом №21 па вуліцы Няміга: «На першым паверсе гэтага двухпавярховага будынка быў гастраном, а на другім — інтэрнат Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе звычайна жылі першакурснікі. І нашы ложкі ў інтэрнацкім пакоі стаялі такім чынам, што мы з Генадзем увесь першы курс праспалі галава ў галаву. Я быў шчаслівы, што бачыў, як нараджаецца паэзія майго сябры — светлая, юнацкая на той час, вясновая. «Майская просінь» — такая першая кніжка ў яго паявілася. І гэта ўсё — на маіх вачах. А насупраць нашага будынку стаяў Петрапаўлаўскі сабор, які і тады дзейнічаў. У нас было трохі весялей, чым у гэтым храме, бо ўнізе быў гастраном, і мы іншы раз бегалі туды за свянцонай вадой пасля экзаменаў. І так склаўся лёс, што Генадзь Бураўкін прыйшоў развітацца з гэтай зямлёй, каб адправіцца да зор, зноў сюды, на Нямігу, у гэты храм».

У памяць пра Генадзя Бураўкіна выконвалі песні Таццяна Матафонава з сынам Адасем, Пётр Клуеў, Зміцер Вайцюшкевіч, Павал Аракелян.

**Фотарэпартаж з вечарыны можна паглядзець на нашым сайце novychas.info.**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Зноўку падоім Расію?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У Беларусі раптам немаведама адкуль з'явіліся вялікія грошы. На мінулым тыдні Аляксандр Рыгоравіч казаў пра тое, што няма куды падзець кітайскія крэдыты. На гэтым тыдні Міхаіл Мясніковіч запэўніў, што мы можам у 2015 годзе разлічыцца па ўсіх знешніх пазыках.**



«Упершую чаргу, разглядаючы збалансаванасць бюджэту на 2015 год, мы павінны разумець, што нам трэба ў поўным аб'ёме разлічыцца па ўсіх знешніх пазыках. Гэта святое. Мы гэтыя сродкі бралі для мадэрнізацыі эканомікі, мы павінны выконваць усе ўзятыя на сябе абавязацельствы», — заявіў Мясніковіч. Больш за тое, ён адзначыў, што золатавалютныя рэзервы пры гэтым павінны быць захаваныя.

Як такое магчыма? Аб'ём толькі кітайскіх крэдытаў у нас, па мінулатыднёвых словах Аляксандра Рыгоравіча, — 15–18 мільярдаў долараў. Апроч таго, ёсць крэдыт МВФ, крэдыт Венесуэлы, крэдыт Ашчадбанка Расіі «Беларуськалію», крэдыт АКФ ЕўрАзЭС, 3–4 расійскія міжурадавыя крэдыты, выдадзеныя ў розныя гады, крэдыт расійскага ВТБ, выдадзены вясною гэтага года, і Бог ведае яшчэ якія абавязальніцтвы.

Тут Мясніковічу трэба знайсці не мех, а, напэўна, цэлы чыгуначны цягнік з золатам. Няўжо знайшлі?

Пра аб'ёмы крэдытавання Беларусі можна здагадвацца па тым, якія ў нас абавязальніцтвы ў крэдытнай сферы на 2015 год. А абавязальніцтвы ў нас — на 4 мільярды долараў. З іх $3 мільярды павінны быць выдаткаваныя на пагашэнне доўгу і $1 мільярд — на бягучае абслугоўванне (працэнты). Такую лічбу на пасяджэнні Саўміна агучыў першы намеснік міністра фінансаў Уладзімір Амарын.

Паводле яго слоў, крыніцамі сродкаў пагашэння знешняга доўгу стануць экспартныя пошліны на нафтапрадукты ў суме $1,5 мільярда, якія Пуцін паабяцаў Лукашэнку ў абмен на падпісанне дамовы пра ЕАЭС, і мытныя пошліны ад экспарту сырой нафты ў суме $582 мільёны. Яшчэ $1 мільярд будзе рэфінансаваны за кошт незвязаных знешніх крэдытаў, у тым ліку міждзяржаўных.

Амарын не назваў крыніцы сродкаў на абслугоўванне знешняга доўгу. Мяркуючы па ўсім, улады зноў будуць выкручвацца, выходзячы з сітуацыі, прадаючы валютныя паперы і выкарыстоўваючы іншыя

**Раней у нас з Расіяй была «растваральна-разбаўляльная афёра». Зараз мы знайшлі новы шлях. Беларусь выйшла ў сусветныя лідары па экспарце антыдэтанатараў і інгібітараў**

механізмы, кшталту міжбанкаўскіх крэдытаў.

Марам Мясніковіча пра «аднамомантнае» пазбаўленне Беларусі ад крэдытнай залежнасці перашкаджае яшчэ і тое, што некаторыя з іх знаходзяцца «ў працы». Напрыклад, як вядома, мы атрымліваем расійскі крэдыт на атамную станцыю. Як можна яго сплаціць, калі АЭС мы яшчэ не пабудавалі?

Праўда, тут праца ідзе сямімільнымі крокамі. Як паведамілі ў прэс-службе РУП «Беларуская атамная электрастанцыя», на энергаблоку №1 Беларускай АЭС змантаваны першы блок унутранай ахоўнай абалонкі. «Гэтая падзея па значнасці параўнальная з заліваннем «першага бетону». Мантаж унутранай ахоўнай абалонкі — адзін з вузлавых момантаў будоўлі. Тым самым мы выйшлі на мантаж надземнай часткі станцыі», — сказаў гендырэктар РУП «Беларуская АЭС» Міхаіл Філімонаў.

Паводле гендырэктара, унутраная ахоўная абалонка будуецца «вельмі эфектыўным метадам», які ўпершыню быў ужыты на будоўлі Запарожскай АЭС, а затым выкарыстоўваўся пры ўзвядзенні станцый на ўсёй тэрыторыі былога СССР. «На жаль, потым на яго незаслужана забыліся. Аднак трэст РОССЭМ здолеў захаваць тэхналогію і прымяніць на практыцы такі метад узбуйняльнага мантажу на будоўлі Нававаранежскай АЭС», — цытуе БелТА Філімонава.

Не ведаю пра «эфектыўны метад», але Запарожская АЭС была ўведзеная ў эксплуатацыю ў 1984 годзе. Тыя «забытыя, але потым узноўленыя» тэхналогіі — тэхналогіі, калі панельныя 9-павярховікі былі вяршыняй савецкага будаўніцтва. Пад «Нававаронежскай АЭС» Філімонаў, пэўна, мае на ўвазе «Нававаронежскую АЭС-2», бо першая станцыя там узведзеная ў 1964 годзе, і павінная ўжо выводзіцца з эксплуатацыі. Дык вось, тая «АЭС–2» дагэтуль не пабудаваная. Так што «стары-забыты-ўзноўлены-эксперыментальны» метад працы, хутчэй, павінен выклікаць занепакоенасць, чым дасягненне, як пра тое кажа дырэкцыя БелАЭС.

Але гэта такое лірычнае адступленне. Галоўнае пытанне ўсё ж у грошах.

Грошы на пагашэнне крэдытаў без кранання ЗВР мы знайшлі звыклым чынам. Раней у нас з Расіяй была «растваральна-разбаўляльная афёра». Зараз мы знайшлі новы шлях. Беларусь выйшла ў сусветныя лідары па экспарце антыдэтанатараў і інгібітараў, пастаўкі якіх не падпадаюць пад абкладанне пошлінамі пры экспарце за межы краін Мытнага саюза.

Гаворка ідзе пра экспарт тавараў па кодзе «Іншыя антыдэтанатары, антыаксіданты, інгібітары смолавытворчасці, загушчальнікі, антыкаразійныя рэчывы і прысадкі гатовыя іншыя». Паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, за шэсць месяцаў 2014 года гэтай прадукцыі было пастаўлена за межы Беларусі амаль 105 тысяч тон на агульную суму, якая перавышае 94 мільёны долараў. Характэрна, што экспарт у натуральным выражэнні павялічыўся ў параўнанні са студзенем-чэрвенем 2013 года ў 53 разы, у вартасным — аж у 131 раз!

Асноўнымі спажыўцамі беларускіх антыаксідантаў, інгібітараў і загушчальнікаў з'яўляюцца Нідэрланды і Вялікабрытанія. Характэрна, што ў абедзве краіны дадзеныя нафтапрадукты ў 2013 годзе не пастаўляліся ўвогуле, а ўжо ў 2014-м экспарт у Нідэрланды перасягнуў 45 тысяч тон і 41 мільён долараў, у Вялікабрытанію — 57 тысяч тон і 52 мільёны долараў. Нагадаем, што тыя ж Вялікабрытанія і Нідэрланды былі асноўнымі спажыўцамі «беларускіх распушчальнікаў і растваральнікаў».

Цікава, колькі зараз спатрэбіцца часу Расіі, каб «перакрыць» і гэты «кранік»?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Андуруша Тактанасыраў

**Кыргызскі праваабаронца мае намер сапсаваць і без таго складаныя адносіны Беларусі і Кыргызстана.**



3 верасня ён правёў адзіночны пікет каля будынку парламента Кыргызстана з патрабаваннем неадкладна разгледзець пытанне аб дыпламатычных адносінах з Беларуссю.

Падставай для пікету стала інфармацыя пра тое, што Аляксандр Лукашэнка нібыта напачатку жніўня ўзнагародзіў былога прэзідэнта Кыргызстана Курманбека Бакіева, які хаваецца ад правасуддзя ў Мінску, ордэнам Дружбы народаў. Невядома, ці сапраўды гэта так, але Андуруша Тактанасыраў патрабуе разарваць з Беларуссю ўсе дыпламатычныя адносіны.

«Ці варта працягваць дыпламатычныя адносіны паміж нашымі краінамі пасля ўчынку дыктатара Лукашэнкі? Сваім апошнім учынкам — узнагароджаннем Курманбека Бакіева ордэнам Дружбы народаў — ён шакаваў не толькі Кыргызстан, але і ўвесь свет. Гэта абраза нашай краіны, і дурны ўчынак з боку Лукашэнкі. У першую чаргу ён абразіў нашу рэвалюцыю», — заявіў Тактанасыраў.

«Адно з маіх галоўных патрабаванняў сённяшняй акцыі — адстаўка пасла Беларусі ў Кыргызстане Віктара Дзенісенкі», — сказаў ён. Тактанасыраў адзначыў, што пасол Беларусі ў Кыргызстане павінен падаць у адстаўку па ўласным жаданні, бо «ён не выканаў свае функцыянальныя абавязкі як дыпламат».



## Марына Коктыш

**Беларуская журналістка выйграла справу супраць Беларусі ў Камітэце па правах чалавека ААН.**

Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў, што правы журналісткі «Народнай волі» парушаныя пры адмове ёй у акрэдытацыі ў Палаце прадстаўнікоў беларускага парламента. Журналістка звярталася з просьбай аб акрэдытацыі пры Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, але без тлумачэння прычын у 2008 годзе атрымала адмову, хоць раней такую акрэдытацыю мела. Коктыш некалькі разоў звярталася ў суд, але сітуацыя з акрэдытацыяй журналісткі так і не змянілася. Справа дайшла да Камітэта па правах чалавека ААН.

Сябры Камітэта прыйшлі да высновы, што беларускія ўлады пры адмове ў акрэдытацыі парушылі артыкул 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які гарантуе кожнаму чалавеку права на свабодны збор, пошук і распаўсюд інфармацыі.

«Безумоўна, я рада, што міжнародная прававая супольнасць не забываецца на правы беларускіх журналістаў і падтрымлівае нас. Хоць я вельмі сумняваюся, што пасля дадзенага рашэння сітуацыя з маёй акрэдытацыяй неяк зменіцца», — распавяла Марына Коктыш прэс-службе ГА «БАЖ».

## Віктар Марціновіч

**Журналіст, публіцыст і пісьменнік узнагароджаны прэміяй Еўрапейскага навукова-фантастычнага таварыства.**



Сама прэмія стала для Марціновіча нечаканасцю. «Я пра гэта ведаю не болей, чым хто. Яе дае еўрапейская асацыяцыя навуковай фантастыкі, намінуюць нацыянальныя дэлегацыі, я, мабыць, некаму з нацыянальнай дэлегацыі спадабаўся», — пракаментаваў гэтую навіну Марціновіч.

Еўрапейскае навукова-фантастычнае таварыства было заснавана на першым Еўрапейскім Канвенце навуковай фантастыкі ў Трыесце (Італія) у 1972 годзе. Яно аб'ядноўвае як прафесійных літаратараў, так і звычайных аматараў жанру. У розны час узнагароды суполкі атрымлівалі такія мэтры, як Гары Гарысан, Станіслаў Лем, Йен Бэнкс.

Тыя, хто хоча пабачыць «беларускага Станіслава Лема», здолеюць гэта зрабіць 10 верасня ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (Мінск, пр. Незалежнасці, 37а). Прэмію Марціновіч адзначае выхадам новага рамана «Мова» і, адпаведна, аўтограф-сесіяй.

# Акно магчымасцяў

Сяргей ПУЛЬША



**Да прэзідэнцкіх выбараў засталося каля года. Дэмакратычныя сілы спрабуюць знайсці «адзінага кандыдата». Але ці ёсць у гэтага кандыдата шанец на перамогу? Асабліва, калі ўлічыць, што выбараў у краіне даўно няма. Каб адказаць на гэта пытанне, «Новы час» вырашыў правесці «круглы стол» з удзелам кіраўніка аналітычнай службы кампаніі «БелаПАН», палітолага Аляксандра Класкоўскага, эксперта НІСЭПД Сяргея Нікалюка і дырэктара па даследаваннях ГА «Дыскусійна-аналітычная супольнасць «Ліберальны клуб» Яўгена Прэйгермана.**

## Лукашэнка выйграе лёгка

***НЧ: Да выбараў застаўся год. З чым да гэтых выбараў прыходзіць улада і апазіцыя?***

***Аляксандр Класкоўскі:*** Лукашэнку ў чарговы раз моцна пашанцавала. Ён і так меў усе



перадумовы, каб выйграць выбары 2015 года, а падзеі ва Украіне — гэта яму як «каму вайна, каму маці родная». Украіна спалохала беларускага абывацеля і ўзняла рэйтынг Лукашэнкі: узнавіўся попыт на «моцную руку» і «стабільнасць».

У адносінах з Еўропай мы назіраем «рымейк 2008 года». Лукашэнка нядаўна прымаў саміт «Мытны саюз — Украіна — ЕС». Хто б яшчэ месяц таму мог уявіць, што ў Мінск прыедзе Кэтрын Эштан і будзе дзякаваць «апошняму дыктатару Еўропы»? То бок, Лукашэнка атрымлівае шанец палепшыць адносіны з Захадам, не ахвяруючы нічым. Адыходзяць убок усе патрабаванні: палітвязні, правы чалавека, свабодныя выбары... Гэта прагаворваецца, але «на аўтамаце», — пераважае прагматычная супраца. Моцна падвышаюцца шанцы прапіхнуць Захаду свой «ідэфікс»: «Не чапайце нашу дыктатуру, і мы не створым вам праблем».

Расія пад цяжарам санкцый хутка не садзмецца, і будзе дапамагаць Лукашэнку: на фоне вайны ўзрастае і каштоўнасць фактычна апошняга вайсковага хаўрусніка. А на тле эканамічных санкцый супраць Расіі Лукашэнка атрымаў магчымасць падзарабіць, пераклейваючы налепкі на прадуктах, і гнаць у Расію еўрапейскую прадукцыю як сваю.

Што тычыцца апазіцыі, яна зараз у поўным канцэптуальным вакууме. Няма канцэпцыі, з чым выходзіць на гэтыя выбары. Ідэя «Плошчы» таксама дыскрэдытаваная.

Калі не адбудзецца нечага нечаканага, то Лукашэнка выбары выйграе адной левай.

***Сяргей Нікалюк:*** Украінскія падзеі зрабілі на беларускае і расійскае грамадства вялікі ўплыў. Для сацыёлагаў гэта проста шчасце. Нам казалі, што сацапытанні пры дыктатуры немагчымыя, што людзі адказваюць не так, як думаюць... Цяпер грамадства абудзілі, і



чалавек пачаў казаць праўду. Мы ўбачылі, што «архаікаў», варвараў, традыцыяналістаў — назавіце, як хочаце — у Беларусі не менш за 65%. Вось і разважайце, як вы будзеце ладзіць «Плошчы» і рэвалюцыі.

Безумоўна, тое, што здарылася ва Украіне, — велізарны плюс для Аляксандра Рыгоравіча. Тэма эканамічных абавязацельстваў, узятых на 4-м Усебеларускім сходзе, проста знятая. Па тых абавязацельствах, у нас заробак павінен быць каля тысячы долараў. Я думаю, што гэтая лічба на выбарах проста не ўсплыве. Лукашэнка ўжо абмовіўся, што галоўнае — тое, што людзі спакойна працуюць, і самае галоўнае — грамадства гэта задавальняе.

***Яўген Прэйгерман:*** Відавочна, што чакаць перамогі «генерала эканомікі» таксама не варта. Паказчыкі ў эканоміцы, канешне,



«не ахці», але падчас выбараў ніхто не глядзіць на ВУП або на бягучы рахунак плацежнага балансу. Тут маюць значэнне зарплаты, дапамогі, пенсіі, стыпендыі, кошты. Так, ёсць праблемы з інфляцыяй, і гэтак далей. Але чым бліжэй да выбараў, тым больш мы назіраем чарговы віток, як мы кажам, «палітыка-дзелавога цыклу», калі пад выбары падымаюцца заробкі і раздаюцца грошы. Цяпер, напрыклад, паднялі заробкі ўрачам, настаўнікам, вайскоўцам. Гэта заўсёды спрацоўвала, і заўсёды нам тлумачаць, што гэты рост — не «перадвыбарчы», а паказчык нейкай тэндэнцыі.

Усе эканамічныя правалы лёгка спішуць на Украіну, якая ў нас — другі гандлёва-эканамічны партнёр пасля Расіі (калі браць ЕС не ў цэлым, а як асобныя дзяржавы). І трэба даць «разнос» чыноўнікам за невыкананне прагнозных параметраў па тэмпах росту эканомікі.

Шмат хто кажа, што барацьба з карупцыяй і скарачэнне дзяржапарату — гэта «перадвыбарчая праграма» Лукашэнкі ў 2015 годзе. Не толькі. Для Аляксандра Рыгоравіча паўстала крыху новая праблема — праблема з кіравальнасцю ў краіне. Ён ужо казаў, што ў Адміністрацыі прэзідэнта палічылі, які працэнт даручэнняў кіраўніка выконваецца, — ён вельмі нізкі. Той жа прыклад «Барысаўдрэва»: Лукашэнка там усё «разнёс», звольніў кіраўніцтва, адначасна ўвёў ледзь не «прыгонныя правы» для працоўных, даў дадатковыя грошы на мадэрнізацыю. Праз год прыязджае — нічога не змянілася. Мне здаецца, Аляксандр Лукашэнка гэта ўсвядоміў, і яшчэ і адсюль — барацьба з карупцыяй і ідэя скарачэння чыноўнікаў.

## Незалежнасць — не козыр

***НЧ: На фоне агрэсіі Расіі ва Украіне нацыянальна-дэмакратычныя сілы адной з галоўных тэмаў выбараў бачаць змаганне за незалежнасць Беларусі. Ці можа барацьба за незалежнасць стаць «фішкай» гэтых выбараў?***

***Аляксандр Класкоўскі: Трэба*** размяжоўваць паняцці «незалежнасць» і «суверэнітэт». Я думаю, што Пуцін не зацікаўлены ў Беларусі адбіраць суверэнітэт: сцяг, герб... А незалежнасць — рэч іншая. Ступень залежнасці Беларусі ад Расіі ўзмацняецца, і сёння мы бачым, што Расія не спыніцца і перад сілавымі метадамі, калі трэба будзе тут «навесці парадак» альбо ўтрымаць Беларусь у гіпатэтычным выпадку, калі тут мяняецца курс, і мы ідзем у Еўропу.

Але я не ўяўляю, як апазіцыя можа весці кампанію на гэтым полі, бо «першы незалежнік» у краіне — усё роўна Лукашэнка, колькі б ні казала апазіцыя адваротнае. Мы ўжо 20 гадоў чуем, як толькі Лукашэнка едзе ў Маскву ці ў Сочы — «паехаў здаваць незалежнасць». Ён ездзіць — і не здае. Пагроза для незалежнасці існуе, але гэта не тая тэма, якую апазіцыя можа зрабіць «фішкай» кампаніі.

***Сяргей Нікалюк:*** Я працягну — пагроза незалежнасці існуе, але яна зыходзіць ад беларускай дзяржавы і беларускага грамадства. Мы фіксуем у апытаннях эйфарыю насельніцтва ад дзеянняў Расіі. На фоне гэтай эйфарыі ўсведамляць нейкую небяспеку ад Расіі — гэта ненатуральна.

## Дылема адзінага

***НЧ: Дэмакратычныя колы разглядаюць дзве стратэгіі. Першая — абранне «адзінага кандыдата» ад апазіцыі на пасаду прэзідэнта...***

***Сяргей Нікалюк:*** Для апазіцыі пытанне перамогі на выбарах у дадзены момант не стаіць. Стаіць пытанне аб тым, што вызначыць у якасці задачы-максімум, і як гэты максімум атрымаць. Я баюся, што ў гэтым ключы нават не будзе размоваў — мы ўбачым тое, што бачым цяпер: абсалютна ідыёцкія размовы аб тым, хто будзе «адзіным».

Ёсць паняцці: «цэнтр» і «перыферыя». «Цэнтр» — гэта тое месца, адкуль зыходзіць нейкая энергія, і за кошт гэтай энергіі ён гуртуе вакол сябе «перыферыю». Мы ж хочам штучна стварыць гэты цэнтр: узяць таблічку «адзіны» і павесіць на нейкае месца. Якая энергія адтуль з'явіцца? Што ён будзе рабіць? Думка пра тое, што цэнтр можна прызначыць — гэта абсалютнае непрыманне ўсяго.

***Аляксандр Класкоўскі:*** Адзіны кандыдат мае псіхалагічнае значэнне для электарату. Дзесяць кандыдатаў ад апазіцыі — гэта апрыёры клоўны. Адзіны кандыдат — хай сабе тэхнічны, «драўляны», выклікае ўсё ж дадатковую цікаўнасць.

***Сяргей Нікалюк:*** Гэта не залежыць ад «адзінага». У нас колькасць тых, хто давярае апазіцыі, і тых, хто за яе галасуе, істотна адрозніваюцца. На прэзідэнцкіх выбарах за апазіцыйнага кандыдата галасуе 25 плюс-мінус 5%. А тых, хто кажа, што давярае апазіцыі, — 13–17%.

На прэзідэнцкіх выбарах адбываецца мабілізацыя электарату. І гэтую мабілізацыю электарату праводзіць улада. Калі ўлада на прэзідэнцкіх выбарах мабілізуе сваіх прыхільнікаў, яна аўтаматычна мабілізуе сваіх супернікаў. Інакш не бывае: мабілізацыя — гэта заўсёды палярызацыя. І гэты мабілізаваны ўладай электарат з'ўляецца на выбары і досыць дружна галасуе па прынцыпе «супраць улады». Калі кагосьці назавуць «адзіным», то ў першую чаргу прагаласуюць за яго. Але колькасць тых, хто прагаласаваў за апазіцыю, будзе адной і той жа, незалежна ад колькасці дэмакратычных кандыдатаў.

***Яўген Прэйгерман:*** Калі ёсць выбар — адзіны кандыдат ці не адзіны, дык лепш мець адзінага. Але калі ў цябе апрыёры няма ніякіх шанцаў на перамогу — не толькі таму, што ЦВК лічбы малюе, але і з аб'ектыўных прычын, — то ў мяне пытанне: а ці трэба заседжвацца на працэдурных спрэчках, ці варта занясца чымсьці больш карысным? Столькі сіл і часу страчваецца на тое, каб абмеркаваць, як абраць адзінага: праймерыз ці Кангрэс, калі Кангрэс, то хто дэлегат, як прызначыць дэлегатаў і гэтак далей...

## Байкот саміх сябе

***НЧ: Пры разуменні, што выбараў няма, частка апазі-***

# за год да выбараў

***цыі задумваецца і над байкотам. Была прапанова Міколы Статкевіча высунуць адзіным кандыдатам заведама «нерэгіструемую» асобу — палітвязня. А калі яе не зарэгіструюць, абвесціць байкот альбо няўдзел у выбарах, чым нанесці моцны ўдар па іміджу ўлады…***

***Аляксандр Класкоўскі:*** Канешне, болей выйгрышнай у плане піяру ёсць пазіцыя вербальнага максімалізму. «Я ўвесь у белых рызах, а тыя, хто ідуць на выбары — калабаранты, прыстасаванцы, грантасмокі, агенты рэжыму», і гэтак далей. У сацыяльных сетках такія словы набіраюць больш «лайкаў», і многія апазіцыйныя палітыкі ператварыліся ў інтэрнэт-троляў: скубуцца паміж сабою, кідаюць палымяныя лозунгі, а некаторыя ўвогуле цалкам перакачавалі ў сацыяльныя сеткі.

Тыя, хто шмат гадоў трымаюцца пазіцыі: «не трэба гуляць у гульні са злачынным рэжымам, і ўдзельнічаць у выбарах, якіх няма», гэта «маргіналы ў кубе» — маргіналы нават сярод апазіцыі. Гэта ўжо «секты», смешныя нават па мерках беларускай апазіцыйнай супольнасці.

Да таго ж, байкоту грамадства проста не заўважыць. Узгадайце, якія былі жарсці ў 2012-м годзе, калі некаторыя партыі фантаналі: «Мы сарвалі парламенцкія выбары!». Потым сацыёлагі паказалі, канешне, што не зусім сарвалі, але ж… Прайшоў час — хто памятае пра гэты байкот? Хто памятае пра «спікераў АГП», якія паказалі «дулю ў кішэні»? То бок байкот — гэта апрыёры пройгрышная стратэгія ў беларускіх умовах.

***Сяргей Нікалюк:*** Выбары характарызуюцца не фактам галасавання, а тысячай розных рэчаў. У нас ёсць адзін крытэр, які перакрывае ўсе астатнія. Гэта крытэр фармавання ўчастковых выбарчых камісій. Усё заканадаўства на баку апазіцыі, досвед ЦВК кажа, што прадстаўнікі палітычных партый (не апазіцыйных) трапляюць туды з верагоднасцю 93–95%. Значыць, апазіцыя павінна абраць гэты крытэр як адзіны. Мы кажам: «Мы ідзем на выбары. Але — на ВЫБАРЫ, і крытэр таго, што гэта выбары — фарміраванне ўчастковых выбарчых камісій. Будзе ў камісіях 90% нашых прадстаўнікоў — мы прызнаем гэтыя выбары. Будзе 89% — гэта не выбары, мы адмаўляемся ўдзельнічаць у фарсе».

Да гэтага моманту ў выбарах варта прымаць самы актыўны ўдзел. Калі ЦВК дае апазіцыі 2–3% — мы ад удзелу ў выбарах адмаўляемся. Аляксандр Рыгоравіч увесь час кажа: «У апошні момант яны спалохаліся». Мы не спалохаліся ў апошні момант — мы абвясцілі яго адразу.

А ўлада не можа дапусціць у выбарчыя камісіі прадстаўнікоў апазіцыі. Таму што для ўлады трэба не проста правесці Аляксандра Рыгоравіча ў прэзідэнты ці дэпутатаў у парламент. На выбарах улада паказвае адзінства народа і гэтай самай улады: для гэтага малюецца 80% яўкі. І тады яна кажа апазіцыі: «Вы хто? Вы — «пятая калона», вы не прадстаўнікі грамадства. Вас няма!». Мэта ўдзелу ў выбарах — сказаць: «Мы ёсць!». Сёння апазіцыя не можа заявіць грамадству: «Мы ёсць!» і паказаць, што ўлада нас баіцца, таму нікуды не пускае. Атрымаць падтрымку хоць бы ад нашых патэнцыйных прыхільнікаў.



Эксперты за гарачай размовай

Апазіцыя павінна папрацаваць з Захадам. Захад таксама кажа — у нас тысячы крытэраў прызнання-непрызнання выбараў. Але павінен быць адзін. Калі ён не выконваецца — няма выбараў. Захад не дасылае назіральнікаў — выбараў няма, кропка. Як у анекдоце: Напалеон прыехаў у нейкі гарнізон і запытаў: «А чаму вы не вітаеце мяне залпамі з гарматаў?» Камендант гарнізона адказвае: «Дзесяць прычын, Ваша Вялікасць. Па-першае, у нас няма гармат…» «Дастаткова», — сказаў Напалеон. Тут — тое ж самае. Захад павінен сказаць: «Няма прадстаўнікоў апазіцыі ва ўчастковых камісіях? Дастаткова».

### Выйсце ёсць заўсёды

***НЧ: Такім чынам, у апазіцыі ў сённяшніх умовах мала варыянтаў, якія б прывялі да пэўнага выніку…***

***Сяргей Нікалюк:*** У беларускай апазіцыі велізарная колькасць варыянтаў дзеянняў, але сярод гэтых варыянтаў няма варыянту прыходу да ўлады.

Гэта не значыць, што нічога не трэба рабіць. Я ўвесь час прыводжу прыклад Уладзіміра Ільіча Леніна. У яго была дакладная задача — захапіць уладу. Ён не выстаўляў на кожны год нейкую праграму, — у аснове марксісцкай ідэі ляжаў пастулат рэвалюцыйнай сітуацыі як аб'ектыўнага працэсу. Калі такой сітуацыі не ўзнікае, ніякія Уладзіміры Ільічы яе сфармаваць не могуць. А калі сітуацыі не склалася, то ён ствараў ячэйкі, распрацоўваў тэарэтычную базу, і гэтак далей.

Рэвалюцыйная сітуацыя ўзнікла раптоўна. За два-тры дні да адрачэння цара ніхто пра гэта не думаў. Але калі гэта адбылося, Уладзімір Ільіч апынуўся да гэтага гатовы. А мы дваццаць гадоў разважаем аб выбарах адзінага.

***Аляксандр Класкоўскі:*** Сапраўды, калі ўявіць сабе сітуацыю форс-мажорных падзей, то апазіцыя, у адрозненне ад бальшавікоў, не будзе да гэтага гатовая. Схема «калі не будзе Лукашэнкі, то ў нас будзе дэмакратыя» — хібная ў прынцыпе. Гэты стэрэатып для многіх з'яўляецца аксіёмай, хаця ён аксіёмай не ёсць. І апазіцыя, як былі маргіналамі, так і рызыкуюць застацца маргіналамі і пасля змены ўлады: знойдзецца, каму яе падхапіць. Ніхто не прыйдзе да апазіцыі са словамі: «Прыходзьце і валадарце намі, бо ў вас заслугі, «Плошчы», турмы». Так, трэба аддаць належнае, гэта ў апазіцыі ёсць, але ў момант «рэвалюцыйнай сітуацыі» — «хто паспеў, той і з'еў». Можа, будзе больш гнуткі аўтарытарызм, «аўтарытарызм 2.0» ці пачатковы ўкраінскі варыянт «а-ля Кучма». І давядзецца гэты доўгі шлях праходзіць…

***Яўген Прэйгерман:*** Калі тут і цяпер немагчымы нейкі тэктанічны рух, і роля апазіцыі не можа быць зменена вельмі сур'ёзна, выбары трэба скарыстоўваць для іншага. Сяргей Нікалюк казаў пра стратэгіі і праграмы — для працы з самімі сабой, з актывам, каб сябе рыхтаваць да выклікаў.

Гэтыя праграмы важныя не толькі «для сябе». Праца з элітай: праграмы важныя для таго, каб даць нейкі пасыл у супрацьлеглы лагер, пачынаць якуюсьці ўскосную дыскусію з тымі, хто знаходзіцца ў органах дзяржаўнай улады. Там сканцэнтраваныя лепшыя «мазгі».

Я, калі размаўляю з такімі людзьмі на розных узроўнях, бачу, што іх ступень незадаволенасці, апазіцыйнасці значна большая, чым у саміх апазіцыянераў. Бо яны бачаць гэта знутры, разумеюць і разбіраюцца ў сітуацыі куды лепш. Але яны не бачаць ніякай інтэлектуальнай пляцоўкі, якая прапаноўвалася б апазіцыяй для абмеркавання праблемаў. Таму яны не звяртаюць на апазіцыю ўвагі, не кажучы ўжо аб падтрымцы.

І другое — папулісцкая, можа быць, праца з насельніцтвам. Некаторыя структуры гэта спрабуюць рабіць — «Гавары праўду!» добраўпарадкуе двары ў Віцебску ці яшчэ дзе, але робяць яны гэта ў адрыве ад разумення таго, як ператварыць гэтыя дзеянні ў палітычны капітал.

***Сяргей Нікалюк:*** Адзіны кірунак, у якім ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму апазіцыя можа апярэджваць уладу — гэта інтэлектуальны. Пры аўтарытарнай уладзе немагчымая жывая дыскусія і нармальны ход думкі. Ёсць разумныя людзі, якія ўсё разумеюць, але сядзяць моўчкі, — знаходзяцца ва ўнутранай эміграцыі. Апазіцыю ж у гэтым плане ніхто не стрымлівае: ёсць думкі — выказвайся. Быў час, калі АГП казала: «У нашай партыі сабраны інтэлектуальныя сілы» і таму падобнае. Сёння мы бачым, што ніякага інтэлектуальнага цэнтра ў апазіцыі няма.

Зараз адбываюцца падзеі каласальнага, цывілізацыйнага маштабу. Спробы асэнсаваць іх, зразумець месца Беларусі ў свеце — мінімальныя. Апазіцыя магла б быць лідарам у гэтым плане, і ў пэўнай сітуацыі гэта інтэлектуальная лідарства можна было б перанесці ў лідарства практычных дзеянняў. Але сёння адбываецца наадварот. Апазіцыю як інтэлектуальную або маральную сілу карыстальнікі інтэрнэту, напрыклад, не ставяць ні ў што.

***Аляксандр Класкоўскі:*** На сённяшні момант няма ў беларускай апазіцыі стратэгіі перамогі. Шмат хто з апазіцыянераў кажа: «Вось ты такі разумны, дай стратэгію перамогі». «Няма», — адказваю я ім. Няма пераможнай стратэгіі, ёсць стратэгія «жабы ў смятане» — адна патанула, другая збіла масла. Хоць няма гарантый, што нешта адбудзецца.

### Плошча — дзеля чаго?

***НЧ: Па выніках выбараў апазіцыя заўсёды кліча людзей «на Плошчу». Ці ёсць перспектыва ў «Плошчы» пасля ўкраінскага Майдану?***

***Сяргей Нікалюк:*** «Плошча» — гэта міф, які апазіцыя выдумала і сама ў яго паверыла. Калі пад «Плошчай» разумець інструмент ціску на ўладу, як ва Украіне, то ў нас ніколі не было. Ад таго, што людзі на адзін вечар на дзве-тры гадзіны сабраліся ў цэнтры Мінска — да таго часу, пакуль ім у прыбіральню не захацелася, — гэта да «Плошчы» як да інструмента ніякага дачынення не мае. Яскравы доказ таму, што апазіцыя яе ўсур'ёз не ўспрымае, — тое, што ні на адну «Плошчу» не было рэальнага плана. Самае характэрнае выказванне: па-мойму, Някляеў казаў, што за дзень да «Плошчы» ён хацеў сустрэцца са Статкевічам у нейкай кавярні, каб абмеркаваць «Плошчу», але там сядзелі нейкія падазроныя хлопцы, і абмеркавання не атрымалася. Вось і ўся падрыхтоўка да «Плошчы».

А на самай справе — што рыхтаваць, калі ў вас няма рэсурсаў? Калі «Плошчу» ўспрымаць як інструмент: у прыбіральню , напрыклад, людзі куды будуць хадзіць? Як гэта рэальна арганізаваць? Няма рэсурсаў — і абмяркоўваць няма чаго.

Магчымасць «Плошчы» — гэта ў першую чаргу раскол у элітах. Калі сілавікі не будуць па першым слове выконваць каманды аб разгоне. Гэта першае, але і гэтага першага ў Беларусі няма.

***Аляксандр Класкоўскі:*** «Плошча» — не інструмент захопу ўлады. Але яна мусіць быць сімвалам. Адпаведна, яе трэба арганізоўваць: з жалезнай дысцыплінай, з выразным планам, і адразу казаць, што «мы не пойдзем штурмаваць неба», але мы хочам паказаць, што мы ёсць, годна завершыць выбары. Арганізоўваць яе менавіта як фінальную акцыю выбараў.

***Сяргей Нікалюк:*** На плошчу прыходзіць моладзь, яе арыштоўваюць, выганяюць з універсітэтаў, садзяць у турмы, ламаюць лёсы. Хто нясе за гэта адказнасць?

На кіеўскі Майдан чалавек выходзіў, разумеючы, што ў яго ёсць шанец нешта змяніць. Але калі мы разумеем, што шанцаў нешта змяніць у нас няма, — куды мы людзей запрашаем?

***Аляксандр Класкоўскі:*** «Плошча», як і «адзіны», у сённяшніх умовах — маральнае пытанне апазіцыі. Калі выберуць адзінага — пакажуць, што мы ўмеем дамаўляцца. Годна арганізаваць сімвалічную «Плошчу», каб пасля яе не пасадзілі б 50 чалавек — гэта таксама дэманстрацыя здольнасцяў правесці мірную масавую акцыю. Гэта як у футболе: слабая каманда можа, ведаючы, што ёй накалоцяць сто галоў, выйсці на поле і згуляць прыгожа. А можа сядзець і сварыцца, хто вінаваты, што набілі столькі галоў.

***НЧ: Такім чынам, апазіцыі трэба быць падрыхтаванай да таго, што ўсё раптам можа змяніцца. А прэзідэнцкія выбары — проста інструмент гэтай падрыхтоўкі?***

***Яўген Прэйгерман:*** Прэзідэнцкія выбары з'яўляюцца тым часам, калі грамадства ўзбуджаецца, мабілізуецца. І гэта адзіны момант, калі, як у пясочных гадзінах, гэта «рыльца» пачынае прапускаць нейкія альтэрнатыўныя думкі. І калі апазіцыя ўбудоўваецца ў гэтую логіку, тады можна казаць пра дылему байкоту і ўдзелу ў выбарах. І далей ужо весці спрэчку, калі вырашылі ўдзельнічаць, — адзіны ці шмат кандыдатаў.

Ёсць і трэці шлях: глядзець на будучыню сваіх структур, займацца нейкім арганізацыйных развіццём, задумвацца пра будучыню краіны, а не пра тое, што адбудзецца ў вызначаны дзень 2015 года. Выбары ствараюць рамкі, у якіх можна выбудоўваць трэцюю мадэль паводзінаў, чым ставіць перад сабой недасягальныя мэты.

***Сяргей Нікалюк:*** Усё можа змяніцца амаль імгненна. Калі грамадства будзе ўспрымаць уладу як галоўнага свайго ворага. Пытанне ў тым, як потым утрымаць сітуацыю ў пэўных межах. Каб не паўтарыць сцэнар Грузіі, Украіны, Азербайджана…

TV

## 14 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Лірычная камедыя «Верныя сябры» (СССР).
**08.50** Слова мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна). 2-я серыя.
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.35** Каробка перадач.
**14.15** Давярай і правярай.
**14.45** Нашы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Сямейная камедыя «Сцюарт Літл-2» (ЗША).
**17.40** Лірычная меладрама «Бабіна лета» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дэтэктыўная меладрама «Алібі - надзея, алібі - каханне» (Расія).
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна). 2-я серыя.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Асяроддзе пражывання».
**12.30** «Брэйн-рынг».
**13.50** «Якраз як».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**17.00** «Насмяшы коміка».
**17.45** Прэм'ера сезона «Ледніковы перыяд».
**18.50** «Я люблю Беларусь».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезона. «Ледніковы перыяд».
**23.45** Што? Дзе? Калі?
**01.00** Мастацкі фільм «Прывід ў машыне».

### СТВ

**06.10** Фільм «Не забудзьцеся выключыць тэлевізар!» (СССР, 1986 г.).
**07.40** «Сардэчна паскардзіцца».
**08.00** Фільм «Трамвай у Парыж» («Беларусьфільм», 2010 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Добры дзень, доктар».
**11.15** Фільм «На спіне ў чорнага ката» («Беларусьфільм», 2008 г.).
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.10** Фільм «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». 1994 г.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Крапавы берэт» («Беларусьфільм», 2008 г.). Заключныя серыі.
**22.30** Фільм «Тры жанчыны і мужчына» («Беларусьфільм», 1998 г.).
**00.10** Фільм «Незабыўныя моманты» (Швецыя - Данія - Нарвегія - Фінляндыя - Германія, 2008 г.).

### Беларусь 2

**06.55** Мастацкі фільм «Цень» (СССР).
**08.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.20** Мазгавы штурм.
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Я хачу гэта ўбачыць!
**10.35** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**11.10** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**14.50** Вышэй за дах.
**15.30** Прыгодніцкі фільм «Чорнае золата» (Францыя - Італія - Катар).
**18.05** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлата.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлата 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Рэальны свет.
**21.45** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.15** Псіхалагічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).

### Беларусь 3

**07.35** «Калейдаскоп».
**07.45** «Размаўляем па-беларуску».
**07.50** «Бераг яго жыцця». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Подых струн». Музычная праграма.
**11.45** «Наперад у мінулае».
**12.15** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.05** «Калейдаскоп».
**13.15** «Навукаманія». Сцвалавыя клеткі.
**13.45** «Размаўляем па-беларуску».
**13.50** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Бронзавая птушка».
**14.15** «Бронзавая птушка». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**17.25** «Калейдаскоп».
**17.40** «Культпрасвет».
**18.05** Сусветнае кіно. «Салярыс». 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.25** «Калейдаскоп».
**21.35** Юбілейны канцэрт ансамбля «Сябры».
**23.35** «Культпрасвет».
**00.05** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Суёнсі».
**09.25** Хакей. Чэмпіянат Беларусі.
**11.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - «Манчэстэр Сіці».
**13.10** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015.
**14.25** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Мінск) - «Шахцёр» (Салігорск). Прамая трансляцыя.
**16.30** Авертайм. КХЛ.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - ЦСКА. Прамая трансляцыя.
**19.25** Баскетбол. Жанчыны. Беларусь - Кітай. Прамая трансляцыя.
**21.15** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015.
**22.30** Баі без правілаў. Фінал чэмпіянату свету па ММА.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**08.00** «Між намі, буслaмі», анімацыйны серыял для дзяцей: 2 серыя.
**08.20** Фітнес-шмітнес.
**08.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.10** Два на два (тэледыскусія).
**09.40** Беларусы ў Польшчы.
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: 1 серыя.
**11.00** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**11.10** «Між намі, буслaмі», анімацыйны серыял для дзяцей: 1 серыя.
**11.35** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял: 1 серыя.
**12.25** «Час гонару», серыял: 2 серыя.
**13.10** «Што такое Галакост? «Клей для шпалераў», дак. фільм, 2013 г., Расія.
**14.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.40** Моўнік (лінгвістычная праграма): «Мужчынскі характар» мовы («Доўгая» ці «доўгі» цень?).
**14.55** 54 % (публіцыстычная праграма): Калі з жанчыны робіцца старая баба?
**15.15** Два на два (тэледыскусія).
**15.45** «Белы алеандр», маст. фільм, 2002 г., ЗША–Германія.
**17.35** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**18.05** «Ранча», серыял: 53 серыя.
**18.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Рамуальд Траўгут.
**19.30** Зона «Свабоды».
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** Дакументальная гадзіна: «Востраў канібалаў», дак. фільм, 2009 г., Францыя–Расія.
**21.35** Фільматэка майстроў: «Гафтаўніцы», трагікамедыя, 2004 г., Францыя.
**23.00** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял 6 серыя.
**23.45** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: 1 серыя.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Кассир

Пеня ______
Всего ______

# Эвакуацыя або трыумф

Алег НОВІКАЎ



**Польская правая апазіцыя лічыць, што прызначэнне Дональда Туска на пасаду старшыні Еўрарады — ледзь не самы ганебны эпізод у сучаснай гісторыі Польшчы.**

Дональд Туск — першы паляк з часоў каралёў дынастыі Ягелонаў, які можа ўплываць на лёсы ўсёй Еўропы. Вось так — не больш, не менш — ацэньваюць некаторыя польскія гісторыкі навіну пра абранне Туска на пасаду старшыні Еўрапейскай рады. Эйфарыі з гэтай нагоды ў Польшчы сапраўды хапае. Аднак далёка не ўсе за Бугам у захапленні ад новага месца працы прэм'ера.

Для правай апазіцыі пераезд Туска ў Брусэль (ён, дарэчы, павінен пачаць выконваць абавязкі старшыні Еўрапейскай рады з 1 снежня) — не што іншае, як эвакуацыя, уцёкі ад адказнасці за адіваочныя правалы сваёй працы на радзіме. У віну Туску ставяць набраныя за мяжой даўгі, рост працоўнай эміграцыі — следства беспрацоўя, допуск на польскі рынак замежных карпарацый...

Адзін з любімых заняткаў правых каментатараў — разважаць пра тое, што без лобі Ангелы Меркель просты смяротны не можа заняць такую адказную пасаду, як старшыня Еўрапейскай рады. Падтрымка Туска Ангелай Меркель, быццам, указвае на тое, што польскі прэм'ер заўсёды быў крэатурай Берліна. Быццам, на пасадзе старшыні Еўрапейскай рады ён працягне верай і праўдай служыць немцам. Лічыцца, што тэстам на патрыятызм для яго стане геаграфія новых баз NATO, што ў сувязі з экспансіяй Расіі плануюць размясціць ва Усходняй Еўропе. Калі тыя базы не размесцяць пад Беластокам, то гэта прадманстрые несамастойнасць Туска як еўрапейскага лідара.

> **Расійская прэса негатыўна ўспрыняла прыход Туска на пасаду ў ЕС**

Адзначаючы ролю Меркель у еўрапрацэсах, правая прэса сумняваецца ў тым, што Туск зможа годна супрацьстаяць экспансіі Масквы. Як вядома, Меркель выступае за пошук кампрамісу з Крамлём, штурхаючы Кіеў на шлях федэралізацыі. Яшчэ адна тэма для скандалу — роля Дэвіда Кэмерана, які, будучы еўраскептыкам, не хацеў абрання на пасаду старшыні нейкага яскравага тыфозі еўраінтэграцыі і пагадзіўся на фігуру Туска. Шэраг правых партый абвінавацілі Дональда Туска ў тым, што ён запатрабаваў у адказ ад Лондану поўны сацыяльны пакет для палякаў, якія працуюць на Альбіёне.

Самы цікавы тэзіс правай прэсы — Дональд Туск прафесійна не здольны выканаць функцыі старшыні Еўрапейскай рады і папросту скампраметуе Польшчу. Яго слабую кампетэнцыю як міжнароднага палітыка, быццам, ілюструюць правалы польскай дыпламатыі на Усходзе. «Вядома, што Дональд Туск не з'яўляецца цвёрдым, адказным, добра падрыхтаваны функцыянерам, якім быў, напрыклад, Херман ван Рампей. І на працягу сямі гадоў прэм'ерства ён так і не прывык да сістэматычнай працы. Пра яго навыкі для перамоваў на міжнародным узроўні можна меркаваць па наступствах яго ўчынках у складаных сітуацыях і крызісах. А калі ўлічыць крызіс у адносінах з Расіяй, Украінай, Літвой і Беларуссю, відавочна, што вялікіх прарываў Польшча ў гэтым накірунку не мае», — піша адна з польскіх газет.

Асабліваe месца ў правай публіцыстыцы адводзіцца праблеме пераемніка Туска на пасадзе прэм'ера. Зараз топ кандыдатаў на вольную вакансію кіраўніка ўраду ўзначальвае Ева Копач, якая займае пасады маршалка Сейму і намесніка Дональда Туска ў партыі «Грамадзянская платформа» (PO). Сцвярджаецца, што прэм'ерства Копач абернецца для Польшчы кашмарам.

Галоўным чынам прэса падкрэслівае адсутнасць у Копач харызмы і самастойнасці. Сапраўды, яна — дастаткова шэры палітык, якога не частка запрашаюць на розныя шоў. «Яна (Копач) настолькі не выбітная, што не мае разумення нават аб нейкай самастойнасці. У той жа час, яна пазбаўленая ўсялякай харызмы, нават калі справа тычыцца польскай палітыкі, што стэрыльная па вызначэнні», — пішуць на рэсурсе «wPolityce.pl». Там жа адзначаецца, што дэфіцыт харызмы ператворыць Еву ў пасіўны манекен у руках Туска, які будзе слепа выконваць яго брусэльскія інструкцыі. Еве нават ужо прыдумалі адпаведную мянушку — «Тамагочы».

Хаця палітычная кар'ера Евы Копач не звязаная з вялікімі скандаламі, апазіцыя ўсё ж знайшла ў яе шафе некалькі шкілетаў. Перш за ўсё, Еву зрабілі адказнай за эпідэмію свінога грыпу. Напярэдадні прыходу вірусу яна адмовілася набыць вакцыну. Дайшло да таго, што маршалка Сейму жадаюць прыцягнуць да адказнасці за смерць усіх палякаў, якія памерлі ад A/H1N1. Таксама Еву падазраюць у тым, што, прымаючы рашэнне, яна тайна дзейнічала ў інтарэсах фармацэўтычных кампаній.

Па-другое, Копач, на думку правых апазіцыйных медыя, кепска выканала місію ў Смаленску, дзе павінна была ідэнтыфікаваць целы польскіх палітыкаў, якія загінулі ў авіякатастрофе. У прыватнасці, яна не звярнула ўвагу на тое, што глеба на месцы катастрофы была моцна перакапаная. На думку шмат каго, гэта былі сляды спробы расіян неяк схаваць доказы, якія ўказваюць на іх датычнасць да аварыі.

З улікам усяго сказанага вышэй, апазіцыя заклікае правесці датэрміновыя выбары, каб урад фармаваў новы сейм. Такая ўстаноўка, безумоўна, звязаная з эфектам уплыву еўрапейскай пасады Туска на польскі палітычны працэс. Апошнія апытанні давалі перавагу кансерватарам. Цяпер сімпатыі могуць змяніцца на карысць лібералаў. Выбаршчык можа клюнуць на тое, што прызначэнне Туска значыць высокую ацэнку еўрапейскімі палітыкамі курсу «Грамадзянскай платформы». Яшчэ горшы сцэнар вяртання Туска на радзіму пасля заканчэння кадэнцыі. З такім салідным іміджам ён мае добрыя перспектывы на прэзідэнцкіх выбарах. Таму крытыка на яго адрас шмат у чым прадыктаваная палітычнай кан'юнктурай. Прынамсі, расійская прэса вельмі негатыўна ўспрыняла прыход Туска на такую высокую пасаду ў ЕС, прызнаючы, што гэта патэнцыйна нясе пагрозу ўплыву Масквы на Усходнюю Еўропу.

Наколькі на самай справе «Грамадзянскай платформе» дапаможа эвакуацыя Туска ў Брусэль, мы даведаемся бліжэй да вясны, калі палякі пойдуць на мясцовыя выбары. Па-сутнасці, вясновае галасаванне выразна акрэсліць шансы партый на вельмі важных для Польшчы парламенцкіх выбарах.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Нядаўняе макраэканамічнае даследаванне «Ашчадбанка», анансаванае на днях у Расіі, цалкам адназначна дадае яшчэ адзін сэнсавы пласт у палітычны партрэт Бацькі. Беларусь – удумайцеся! – лічыцца галоўным бенефіцыярам падзей 2014 года. Якраз у распаўсюджаны ў апошнія месяцы сумны жарт пра тое, што ЗША і Расія ваюць аж да апошняга ўкраінца, варта дадаць яшчэ адзін пасаж пра выгаду яшчэ аднаго суседа на чале з «апошнім дыктатарам Еўропы».

**«Лента.ру» (Расія)**

Яшчэ нядаўна прэзідэнт Лукашэнка лічыўся «апошнім дыктатарам Еўропы», міжнародным пудзілам, парыям для цывілізаванага свету. Але потым Крэмль пусціўся ва ўсе цяжкія, і на фоне Уладзіміра Уладзіміравіча беларускі лідар стаў выглядаць ледзь не інстытуткай з добрымі манерамі. Фактычна, Беларусь стала чымсьці накшталт Швейцарыі падчас дзвюх сусветных войнаў. Гэта масток паміж супрацьлеглымі бакамі, нейтральная зона, дыпламатычная і гандлёвая пляцоўка. Любое абвастрэнне сітуацыі ідзе ёй толькі на карысць.Ператварэнне з краіны-ізгоя ў міні-Швейцарыю — сур'ёзны поспех, і Аляксандр Рыгоравіч можа ганарыцца ўласнай кемлівасцю. Без сумневу, палітычны доўгажыхар з Мінска перажыве ўкраінскага прэзідэнта Парашэнку. Але ў мудрагелістага Бацькі ёсць усе шанцы перажыць і прэзідэнта Пуціна.

**«Сегодня» (Украіна)**

Бацька шмат разоў дэманстраваў свету сваю дэ-факта дваістую арыентацыю і на Захад і на РФ. Асаблівa не спадабалася ў РФ прадстаўнікам яе патрыятычнага крыла пазіцыя Бацькі ў адносінах да Данбасу. Бацька дэ-факта ўхваляў расправу кіеўскай хунты над апалчэнцамі. Карацей, спрабуючы класці яйкі ў некалькі кошыкаў, Бацька не нажыў сабе новых сяброў, а толькі абвастрыў адносіны са старымі з Расіі. Той рэжым, які ўтвaрыўся ў Беларусі, — буржуазна-бюракратычны. Лёс Кадафі і Чаўшэску для Бацькі ў гэтых абставінах — больш чым рэальная перспектыва.

**«Форум МСК» (Расія)**

Ні Лукашэнка, ні Назарбаеў не могуць стаць саюзнікамі Украіны. Вядома, яны напалоханыя, і ў душы яны не хочуць рухацца ў фарватэры крамлёўскай палітыкі, але яны настолькі жорстка эканамічна і палітычна прывязаныя да Крамля, што ў адкрытае супрацьстаянне не пойдуць.

**«Бульвар Гордана» (Украіна)**

Пуцін на Крыме не спыніўся. З'яўленне праекта «Наваросіі», засылка дыверсантаў у Данецкую і Луганскую вобласць сталі для Лукашэнкі і Назарбаева значна больш небяспечным сімптомам, чым Крым. Лукашэнка наўрад ці забыўся пра «запрашэнне» Пуціна беларусам — далучацца да Расійскай Федэрацыі абласцямі. І ці варта дзівіцца таму, што Лукашэнка і Назарбаеў спрабуюць задушыць працэс у зародку і прымусіць Пуціна дамовіцца з Парашэнкам яшчэ да таго дня, як расійскае кіраўніцтва арганізуе мяцяжы ў Беларусі і Казахстане або накіруе танкі ў бок Мінска і Астаны.

**«Inforesist» (Украіна)**

5 верасня 2014 | № 33 (402) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Уводзіцца данбаскі рубель?

На сайтах данбаскіх сепаратыстаў актыўна абмяркоўваецца ідэя тэрміновага ўвядзення рэгіянальнай валюты. Рэзоны тут не толькі эканамічныя. На думку сепаратыстаў, наяўнасць рэгіянальнай валюты часцей за ўсё сведчыць пра непазбежнасць і неабходнасць існавання інстытутаў, што яе друкуюць. «Калі асноўная валюта перастае выконваць свае функцыі, альтэрнатыўныя грошы падхопліваюць ініцыятыву і нясуць у масы надзею на падтрымку лакальнай эканомікі», — піша адзін з аматараў новай валюты. У любым выпадку, з улікам таго, што з 15 ліпеня ў Данецку і Луганску не працуе дзяржаўнае казначэйства Украіны, нейкую валюту яўна давядзецца ўводзіць. Акрамя таго, перад вачыма вопыт Прыднястроўя, дзе з 1994 года функцыянуюць т.зв. «суворыкі» (так называюць лакальныя грошы). Дарэчы, трэба прызнаць, што фінансавая сістэма непрызнанай Прыднястроўскай Малдоўскай Рэспублікі значна больш стабільная за беларускую.

**Паводле малдоўскай прэсы**



### ТУРЦЫЯ. Культ асобы Эрдагана

Новаабраны прэзідэнт Турцыі Рэджэп Таіп Эрдаган яшчэ не паспеў прыняць прысягу, як у краіне заквітнеў культ яго асобы. Так, адзін з турэцкіх міністраў даў зразумець, што цяпер у адміністрацыі прэзідэнта і ў калідорах ураду абмяркоўваецца ідэя назваць новы аэрапорт у Стамбуле ў гонар былога прэм'ера і, адпаведна, новага прэзідэнта. У якасці аргумента ў абарону такога рашэння чыноўнік спаслаўся на статыстыку. За 12 гадоў прэм'ерства Эрдагана нацыянальны даход Турцыі, калі яму верыць, вырас у 3,4 разу. Такая шалёная лічба, на думку міністра, сведчыць пра тое, што «ростам дабрабыту ўсё насельніцтва абавязанае асабіста Эрдагану». Аднак стамбульскі аэрапорт імя Таіпа Эрдагана — гэта, хутчэй за ўсё, толькі пачатак эры ўсхвалення экс-прэм'ера у назвах рознага кшталту аб'ектаў. Як прызнаўся вышэй згаданы міністр, «што б туркі ні зрабілі ў якасці падзякі Эрдагану, гэтага будзе мала».

**Паводле турэцкай прэсы**

### КІТАЙ. Хто выратуе свет?




Кітай вырашыў пацясніць сусветную гегемонію ЗША не толькі ў эканоміцы. Замах зроблены на такую традыцыйную сферу дамінавання ЗША, як коміксы пра супергерояў. У КНР выйшаў на рынак і актыўна рэкламуецца комікс «Капітан Кітай». Ужо выйшлі два выпускі прыгодаў «самага вялікага камуністычнага супергероя». На іх старонках Капітан Кітай робіць тое, што і яго амерыканскія калегі — выратоўвае чалавецтва ад злачынцаў, праўда, па просьбе не амерыканскага, а кітайскага ўрада. Цікава, што сам Капітан Кітай па сюжэце не паважае чыноўнікаў КНР, паколькі лічыць, што тыя здрадзілі камунізму, хаця пры гэтым з-за пачуцця патрыятызму і выконвае іх загады. Амерыканцы ўжо выказалі незадаволенасць плагіятам, аднак зрабіць нічога не могуць. Між тым, Капітан Кітай перасек Ціхі Акіян і ўжо пачаў актыўна прадавацца ў ЗША. Як кажуць спецыялісты, комікс ідзе вельмі добра, паколькі, мяркуючы па ўсім, кітайцы не пашкадавалі грошай і сабралі для працы над праектам вельмі вялікую творчую каманду.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Кампанія супраць памінак

Абсалютна незвычайную кампанію пачалі ўлады Азербайджана. Яе галоўнае пасланне — не допускаць пампезнасці на цырымоніях пахавання. Паводле мясцовай традыцыі, у фінале пахавання родныя нябожчыка частуюць прысутных. Улада лічыць, што гэтыя застоллі наносяць удар па сямейных бюджэтах і ствараюць дэфіцыт на рынку прадуктаў. Сітуацыя настолькі крытычная, што ўрад на пачатку жніўня нават акрэсліў спіс прадуктаў, якія можна спажываць падчас памінак — чай, хлеб і максімум фінікі. Мера, мяркуючы па ўсім, не спрацавала. Інакш бы 29 жніўня мэр гораду Сумгаітне не заявіў пра стварэнне пры ЖЭКах спецыяльных камандаў, якія будуць хадзіць па памінках і сачыць, як выконваецца загад азербайджанскага Кабміна. На думку мэра, удзельнікі пахаванняў могуць абмяжавацца выключна гарбатай. Усё іншае, што з'явіцца на сталах падчас памінак, падлягае канфіскацыі.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

# На што пакрыўдзілася Астана

Алег НОВІКАЎ

**У Казахстане, напэўна ўпершыню ў гісторыі, улада выступіла арганізатарам кампаніі супраць імперыялістычнай рыторыкі расійскіх палітыкаў.**




Казахскі інтэрнэт ніколі так шмат не пісаў пра Пуціна, як у гэтыя дні. Асабліва ў такім негатыўным, ганебным ключы. Казахі не могуць зразумець, і часам нават прабачыць Пуціну сказанага на возеры Селігер: «Ён [Назарбаеў] стварыў дзяржаву на тэрыторыі, на якой ніколі дзяржавы не было». Далей Пуцін пахваліў філасофію «еўразійскай ідэі» і заявіў, што казахі яе падтрымліваюць і бачаць выгаду ў тым, каб «заставацца на прасторах вялікага рускага свету».

Трэба адзначыць, што гэта не першы выпад расійскіх палітыкаў, але на гэты раз Астану, што называецца, дастала.

Казнэт і казахскія СМІ адкрыта разважаюць пра пагрозу з поўначы, падазраючы, што пуцінскае геапалітычнае бачанне «вялікай Расіі» адлюстроўвае скандальны артыкул Аляксандра Салжаніцына 1990 года, у якім ён пісаў пра неабходнасць анексіі Паўночнага Казахстану. Дэпутаты казахскага парламента ў першы дзень сесіі падвергл крытыцы заявы расійскага палітыка Уладзіміра Жырыноўскага, у якіх гучаць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Казахстана. Нарэшце, Назарбаеў публічна дапусціў магчымасць выхаду Казахстана з працэсу еўразійскай інтэграцыі. «Астана ніколі не будзе ў складзе арганізацый, якія нясуць пагрозу незалежнасці Казахстана», — цытуюць СМІ Нурсултана Назарбаева.

А маладыя нацыяналісты арганізавалі флэшмоб «Дашлі падручнік Пуціну», даючы зразумець, што яму трэба падвучыць этапы гісторыі казахскай дзяржаўнасці, якая паўстала задоўга да 1991 года. «Нашы продкі мелі свае дзяржаўныя ўтварэнні, якія задоўга да гістарычнай Расіі кантактавалі, гандлявалі, а ў шэрагу выпадкаў і ваявалі з многімі «гістарычнымі» народамі і цывілізацыямі. Сказаць такому народу, такой нацыі, што ў цябе не было «гісторыі», не было дзяржаўнасці, у лепшым выпадку — невуцтва, у горшым, як ужо было адзначана, абраза», — лічаць арганізатары акцыі.

Такая рэакцыя казахаў на сентэнцыю Пуціна выклікала шок у Расіі. Нейкі час выбух русафобіі сярод казахаў спісвалі на дзейнасць украінскіх СМІ, якія, быццам, наўмысна падрываюць адзінства ў лагеры Мытнага саюза. Трошкі пазней Масква змяніла тактыку. Шэраг маскоўскіх палітолагаў прызналі, што Пуцін у чымсьці памыліўся.

Напрыклад, маскоўскі палітолаг Андрэй Куртаў прызнае, што расійскі прэзідэнт дапусціў шэраг недакладнасцяў: «Пуцін усё ж — не доктар гістарычных навук. Усё ж няправільна адмаўляць дзяржаўнасць Казахстана ў савецкім перыядзе — гэта была дзяржава ў складзе СССР. Было б правільней, калі б Пуцін ужыў тэрмін «сучасная дзяржава».

Па слядах такога кшталту каментараў былі зробленыя афіцыйныя крокі. Лаўроў заявіў, што яго боса недакладна зразумелі. Пасля гэтага градус напружанасці ў адносінах паміж Астаной і Масквой імкліва знізіўся. Старшыня Камітэта па міжнародных справах, абароне і бяспецы ніжняй палаты парламента Казахстана Маўлен Ашымбаеў паведаміў, што фразу Назарбаева пра выхад з Мытнага саюза таксама «няправільна зразумелі».

Фармальна, канфлікт на гэтым можна лічыць вычарпаным. Аднак, як прызнае прэса, хутчэй за ўсё, падобныя інцыдэнты будуць мець месца і далей.

Перш за ўсё, расійскае грамадства, захопленае шавіністычнымі настроямі, прагнуе вітаць ідэю ліквідацыі казахскай дзяржаўнасці. Вось як, напрыклад, адзін са славянафілаў каментуе ў сеціве згаданы флэшмоб «Дашлі падручнік Пуціну»: «Што панапісалі ў сваіх падручніках гісторыі нашы суседзі, мы выдатна ведаем на прыкладзе прыбалтаў, грузінаў, і асабліва ўкраінцаў. Падобна на тое, і казахі цішком складалі сваю версію сусветнай гісторыі. Цяпер хутка высвятліцца, што Чынгісхан быў родам з Алма-Аты, а Чэрчыль з'яўляецца дзядулем Назарбаева. Не хацелася б так думаць, але, здаецца, параноікаў на мяжы з Расіяй стала больш».

У сваю чаргу, казахская эліта стала больш асцярожнай адносна інтэграцыйных праектаў з Расіяй. «Нашы ўлады толькі-толькі пачалі разумець той праўдзівы сэнс, які Расія ўкладвае ў слова «саюз». Мы з самага пачатку казалі пра тое, што ўсе тры краіны пераследуюць розныя мэты, якія не артыкулююць. Для Казахстана і Беларусі МС і ЕАЭС першапачаткова былі пытаннямі манеўру і пошуку эканамічных магчымасцяў. Расія ж першапачаткова мела палітычныя мэты і была гатовая за іх плаціць вялікую цану. Падзеі ва Украіне знішчылі любы расійскі софт-паўэр», — піша апазіцыйны сайт zona.kz.

Аднак пры гэтым трэба ўлічваць два моманты. Па-першае, аўтарытарызм Назарбаева плюс антысацыяльны курс яго рэжыму дасталі добрую частку насельніцтва краіны. Калі меркаваць па казахскіх форумах, вялікі сегмент казахаў абыякава ставіцца да ўсялякіх ініцыятыў з боку дзяржавы, падазраючы, што ўсё гэта — брудныя піяр-схемы, якія павінны захаваць у краіне статус-кво. «Спектакль усё гэта, прычым словы ўсе распісаныя і ролі раздадзеныя. Каб казахі не вякалі супраць так званага Еўразійскага эканамічнага саюзу, а ў будучыні яшчэ ўбачыце, што ад імя народа наша ўлада напіша прашэнне аб далучэнні Казахстана да РФ у якасці суб'екта федэрацыі з асаблівым статусам. Справа да таго ідзе», — піша блогер на сайце казахскай секцыі «Радыё Свабода».

Акрамя таго, казахская незалежная прэса мяркуе, што Назабаева ў фразе Пуціна пакрыўдзіла не супярэчлівая трактоўка гісторыі Казахстана, а латэнтная пагроза на свой адрас, на права прызначаць пераемніка. «Толькі абсалютна дурны і недалёкі чалавек можа назваць нядаўнія словы Уладзіміра Пуціна на адрас прэзідэнта Нурсултана Назарбаева «кампліментам». У прыватнасці, яго словы пра тое, што Назарбаеў пакуль «яшчэ жывы-здаровы», усё гэта і выглядае выклікам, пагрозай асабіста прэзідэнту Казахстана», — піша адзін з апазіцыйных сайтаў. Сапраўды, пару гадоў таму на зборах нейкіх адміністратараў Назарбаеў казаў тое ж самае, за што цяпер яго агітпроп так моцна крытыкуе Маскву. «Ніколі казахскай дзяржавы не было, бо яна не мела межаў», — сказаў тады казахскі гарант.

# Міф Таненберга

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму ва Усходняй Прусіі пад горадам Таненберг нямецкае войскі разбіла рускае. Тая бітва мела каласальны ўплыў на далейшы ход гісторыі.**

Сама бітва цягнулася каля васьмі дзён і закончылася канфузам рускай арміі, якой камандаваў Аляксандр Самсонаў (калі ён зразумеў, што прайграў бітву, застрэліўся). 8-я нямецкая армія пад кіраўніцтвам Паўля фон Гіндэнбурга, нягледзячы на тое, што саступала па колькасці рускай, здолела разграміць праціўніка.

Падчас бітвы было забіта каля 60 тысяч салдат рускай арміі, фронт пачаў рухацца на ўсход, углыб Расійская імперыі. Своеасаблівай кампенсацыяй для рускай і савецкай гісторыяграфіі было тое, што на дапамогу 8-й арміі былі перакінутыя дадатковыя войскі з Заходняга фронту, з-за пагрозы захопу рускімі ўсёй Усходняй Прусіі.

У Берліне лічылі, што на першым этапе вайны ніякіх асаблівых падзей на гэтым участку фронту не будзе. Планавалася, што сапраўдныя бітвы пачнуцца ў Францыі, згодна са славутым планам Шліcэена. Таму 8-ю армію вырашылі даверыць Гіндэнбургу (1847–1934), які на той час быў ужо на пенсіі.

Аднак хутка былы пенсіянер стаў героем нацыі. Уся Германія даведалася імя пенсіянера і яго пратэжэ Эрыха Людэндорфа — кіраўніка штабу арміі. Нягледзячы на сістэматычныя паразы нямецкай арміі на франтах, гэтыя прозвішчы захавалі пазітыўную асацыяцыю сярод простых немцаў. А што ўжо казаць пра пасляваенныя часы, калі на хвалі пратэсту супраць Версальскай дамовы краіну ахапіла хваля рэваншызму. Менавіта ў гэты час вакол Таненберга ўтварыўся сапраўды міф.

Хутка ўзнікла ідэя будаўніцтва мемарыялу ў гонар перамогі 1914 года. 31 жніўня 1924 года ў прысутнасці Гіндэнбурга і Людэндорфа адбылася ўрачыстая цырымонія закладкі першага каменя ў падмурак мемарыяла. У мерапрыемстве прынялі ўдзел каля 60 тысяч чалавек, у сваёй большасці ветэранаў бітвы. Праект манументальнага вайсковага помніка быў распрацаваны берлінскім архітэктарамі Вальтэрам і Ёганэсам Кругерамі, якія перамаглі ў адпаведным конкурсе. Помнік павінен быў нагадваць па сваёй архітэктуры неалітычны Стоўнхэндж і сярэднявечную крэпасць Кастэль-дэль-Монтэ, якая мела восем вежаў. Гэтыя 20-метровыя вежы, арыентаваныя па баках свету, мелі розныя гераічныя прысвячэння, напрыклад, вежа жаўнераў або вежа сцягу. Адна з вежаў называлася вежа Гіндэнбурга. Урачыстае адкрыццё мемарыяла адбылося 18 верасня 1927 года і было прысвечанае 80-гадавіне Паўля фон Гіндэнбурга, выбранага на той час прэзідэнтам. У 1934 годзе Гіндэнбург памёр, і яго пахавалі ў мемарыяле. Натуральна, пахаванне вылілася ў буйную прапагандысцкую акцыю з удзелам Гітлера.



**Што тычыцца цяперашняга юбілею Таненберга, то ў ФРГ яго хутчэй узгадваюць як нешта далёкае і цікавае выключна для гісторыкаў. Ніякіх актуальных канатацый тая падзея не выклікае. Хіба што гэты юбілей згадваюць былыя жыхары Усходняй Прусіі**

Такая вялікая роля бітвы пры Таненбергу былі звязаная таксама з тым, што згоду на фармаванне ўрада Гітлера ў лютым 1933-га выдаў менавіта Гіндэнбург. Пасля прэзідэнт 21 сакавіка 1933 года прыняў удзел у арганізаваннай нацыстамі акцыі з нагоды адкрыцця новага Рэйхстагу. Месцам для мерапрыемства была абрана гарнізонная царква ў Патсдаме, дзе знаходзяцца рэшткі Фрыдрыха Вялікага.

Як пішуць сучаснікі, Гебельс зрабіў з гэтай цырымоніі сапраўдную цукерку. У прамым радыёэфіры на ўсю краіну журналісты апісвалі, як стары Гіндэнбург плача падчас прамовы новага канцлера. Згадаў у той прамове Гітлер і Таненберг: «У адзіным парыве мы за некалькі тыдняў абаранілі нацыянальны гонар. Дзякуючы вам, спадар фельдмаршал, сімвалы былой велічы аб'ядналіся ў адно цэлае. Мы выказваем вам нашу падзяку». Гэты спектакль стаў галоўным піярам новага рэжыму. Гітлер, які раней выглядаў фіглярам у вачах арыстакратыі, дзякуючы поціску рукі Гіндэнбурга набыў імідж сур'ёзнага дзяржаўнага мужа.

У часы Гітлера культ Таненберга дасягнуў неверагодных памераў. Месца бітвы называлі сімвалам супраціву Версалю і «скалой нямецкага духу». З усёй Германіі былі арганізаваныя туры ў Таненберг. Была распрацаваная нават працэдура экскурсіі. Каб трапіць да мемарыялу, трэба было доўгі час ісці пешшу, пасля наведаць магілу Гіндэнбурга, вежу, названую ў яго гонар, зал славы і г.д. Дайшло да таго, што менавіта ў мемарыяле ў знак сімвалізму вырашылі зрабіць штаб мясцовай вайсковай акругі.

Бліжэй да канца 1930-х гадоў, калі Германія ўсё гучней пачала патрабаваць рэвізіі сваіх усходніх межаў, Таненберг набыў новы канцэпт. Усё часцей яго наведвальнікам казалі пра Грунвальдскую бітву, якую разглядалі не як паразу, а хутчэй як знак даўняй прысутнасці Германіі ў рэгіёне. Бітву пад Таненбергам падавалі як рэванш немцаў за паразу пад Грунвальдам.

Падчас Другой сусветнай вайны, пры набліжэнні савецкіх войскаў, па заданні Берліну немцы самі ўзарвалі мемарыял, каб не дапусціць яго апаганьвання, а парэшткі Гіндэнбурга і яго жонкі вывезлі ў надзейнае месца.

Пасля вайны і кампаніі дэнацыфікацыі, якая закранула і міф Таненберга, вынікі бітвы ў жніўні 1914 года перагледзелі. Гісторыкі пагаджаюцца, што Гіндэнбург ліквідаваў пагрозу акружэння і разгрому 8-й арміі і магчымай акупацыі часткі Усходняй Прусіі. Аднак жаданне германскага кіраўніцтва ўтрымаць Усходнюю Прусію дорага каштавала. Перадыслакацыя войскаў з Заходняга фронту абярнулася правалам аперацыі супраць Францыі, і тым самым стала стратэгічнай паразай Германіі. Пасля Таненберга Германія была вымушана весці зацяжную вайну на два фронты, якая праз чатыры гады закончылася яе фактычнай капітуляцый. Таксама сталі вядомы мемуары ўдзельнікаў той бітвы, якія скептычна ставіліся да вайсковага генію Гіндэнбурга. Адзін з яго генералаў пісаў, што ў разгар бітвы камандуючы ўвогуле адмовіўся ад кіраўніцтва, паколькі, па яго словах, «інструкцыі і загады ўсё роўна не працуюць».

Што тычыцца цяперашняга юбілею Таненберга, то ў ФРГ яго хутчэй узгадваюць як нешта далёкае і цікавае выключна для гісторыкаў. Ніякіх актуальных канатацый тая падзея не выклікае. Хіба што гэты юбілей згадваюць былыя жыхары Усходняй Прусіі, якія былі вымушаны пакінуць свой край пасля Патсдаму. Падчас вайны ім увесь час казалі, што як толькі прыйдзе Чырвоная Армія, будзе мець месца новы Таненберг. Аднак нічога падобнага не адбылося. Таму для гэтых людзей слова «Таненберг» — хутчэй сінонім расчаравання і хлусні палітыкаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Крысціна Кіршнер



Нягледзячы на тое, што ў краіне абвешчаны дэфолт, прэзідэнт Аргенціны выступіла з глабальным праектам — перанесці сталіцу дзяржавы. Новай сталіцай можа стаць горад Санцьяга-дэль-Эстэра, што знаходзіцца ў 600 кіламетрах на паўночны захад ад Буэнас-Айрэса. Санцьяга-дэль-Эстэра павінен стаць новай сталіцай, паколькі гэта самы стары горад Аргенціны, які быў заснаваны 455 гадоў таму. «Мы павінны падумаць над тым, каб федэральны цэнтр знаходзіўся ў Маці аргенцінскіх гарадоў», — сказала Кіршнер. Гэта ўжо трэцяя спроба ў гісторыі краіны знайсці альтэрнатыву Буэнас-Айрэсу. У 1850 годзе планавалася перанесці сталіцу на адну з выспаў у рэчышчы Рыа-дэ-ла-Плата. Пасля падзення вайсковай дыктатуры ў 1983 годзе новыя дэмакратычныя ўлады меркавалі, што сталіцай можа стаць гарадок Ведма, што знаходзіцца ў Патагоніі. І вось трэцяя спроба. Грамадства і апазіцыя пакуль не вераць у тое, што ідэя новай сталіцы можа быць рэалізаваная ў цяперашніх эканамічных умовах. Тым не менш спікер ніжняй палаты аргенцінскага парламенту ўжо прапанаваў прыняць пастанову аб тым, каб пасля прэзідэнцкіх выбараў у 2015 годзе разгледзець праект стварэння новай сталіцы.

### Холгер Шыманскі



Лідар неанацысцкай Партыі нацыянал-дэмакратаў (NPD) у зямлі Саксонія абвінавацiў дзяржструктуры ФРГ у фальсіфікацыі выбараў. Фальсіфікацыі, на яго думку, мелі месца ў нядзелю, 31 жніўня, калі саксонцы абіралі новы склад зямельнага парламента. У выніку выбараў NPD атрымала 4,95 працэнта і, адпаведна, не здолела захаваць фракцыю ў ландтагу (па нямецкіх законах, прахадны бар'ер складае 5 працэнтаў). Усяго партыі не хапіла смешных 800 галасоў. Шыманскі, аднак, лічыць, што прычынай правалу сталі маніпуляцыі выбаркама. Праваліў яго партыі, быццам, замовілі ў сталіцы, паколькі цэнтральны ўрад даўно хацеў пазбавіцца прысутнасці нацдэмаў у парламенце (Саксонія была адзінай зямлёй ФРГ, дзе неанацысты мелі дэпутацкае прадстаўніцтва). Цяпер, як лічыць Шыманскі, улада павінна тэрмінова правесці новы празрысты падлік галасоў. Прэса мяркуе, што наўрад ці выбаркам або суд пойдуць насустрач кіраўніцтву NPD. Прынамсі, пераможцы выбараў — хрысціянскія дэмакраты — не чакаючы рэакцыі на скаргу нацдэмаў, ужо пачалі перамовы наконт стварэння ўрадавай кааліцыі.

### Гурбангулы Бердымухамедаў



Прэзідэнт Туркменістана нечакана для ўсіх вырашыў змяніць канстытуцыю. Па словах туркменскага гаранта, Асноўны закон трэба ўдасканаліць такім чынам, каб «чалавек сапраўды з'яўляўся вышэйшай каштоўнасцю краіны». Першым этапам стала правядзенне па ўсёй краіне круглых сталоў грамадскасці, на якіх павінны прапанавац канкрэтныя папраўкі. Аднак, як пішуць апазіцыйныя СМІ, гэта ініцыятыва дэ-факта правалілася: усе круглыя сталы выліваюцца ў сеансы глабіфікацыі існуючага рэжыму і яго лідара або ў абсалютна абстрактныя маналогі пра тое, як далёка зайшла туркменская дэмакратыя. Цікава, што тутэйшыя апазіцыянеры вельмі задаволеныя такімі вынікамі. Яны ўсур'ёз баяліся, што ў рамках такога кшталту мерапрыемстваў можа быць агучана ідэя надання Бердымухамедаву статусу пажыццёвага прэзідэнта. Паколькі такой ініцыятывы на круглых сталах яшчэ не агучылі, сутнасць запланаванай канстытуцыйнай рэформы пакуль застаецца інтрыгай.

# Перамога, якая захавала

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,
доктар гістарычных навук

**Аршанскія ўлады забаранілі святкаванне 500-годдзя бітвы пад Оршай. Між тым, гэтая бітва слаўнай старонкай увайшла ў гісторыю нашай дзяржавы і штогод адзначаецца беларусамі ва ўсім свеце як Дзень беларускай вайсковай славы. 500 гадоў таму яна азначала перамогу беларускага войска, якая захавала незалежнасць нашай дзяржавы.**



Ужо ў XIV–XV стагоддзях адбываліся амаль пастаянныя канфлікты паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім і Жамойцкім і Маскоўскім вялікім княствам за панаванне на землях Русі і іх палітычнае і дзяржаўнае аб'яднанне або пад эгідай Масквы, або Вільні.

У канцы 1512 года пачалася новая вайна. Маскоўскія ваяводы правялі рэйды ўглыб Беларусі. У снежні 1512-га штурм беларускай крэпасці Смаленска вынікаў не даў, і Васіль III з войскамі вярнуўся ў Маскву, папярэдне разрабаваўшы смаленскія сёлы і захапіўшы ў палон іх жыхароў. Другая кампанія маскоўскай арміі супраць ВКЛ пачалася ўлетку 1513-га. Новая аблога Смаленска таксама была беспаспяховай.

Трэцяя кампанія характарызавалася лепшай падрыхтоўкай рускай арміі. 16 мая 1514 года пачалася новая аблога Смаленска маскоўскімі войскамі, якія мелі 300 гарматаў. Некалькі штурмаў горада вынікаў не далі. Тады маскоўскі ваявода князь Міхаіл Глінскі ўгаварыў смалянаў капітуляваць. Капітуляцыя Смаленска адбылася 30 ліпеня 1514-га. Частка смалянаў выехала ў ВКЛ.

Пасля захопу Смаленска Васіль III загадаў 80-тысячнаму войску накіравацца на захад. Яно прасоўвалася да Оршы і Друцка, а потым на Віленскім напрамку. Маскоўскім войскам камандавалі галоўныя ваяводы баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца (продак князёў Галіцыных), прамы нашчадак Гедыміна па мужчынскай лініі. Насустрач маскоўскім баярам і іх палкам з Вільні праз Менск і Барысаў выйшаў са сваім войскам кароль польскі і вялікі князь літоўскі і рускі Жыгімонт Казіміравіч.

Кароль Жыгімонт сабраў войскі абедзвюх дзяржаў: феадальнае апалчэнне ВКЛ на чале з гетманам князем Канстанцінам Астрожскім — 16 тысяч вершнікаў, 14 тысяч польскіх коннікаў, 3 тысячы наёмнай польскай пяхоты, а таксама дробныя феадальныя атрады з Малой Польшчы і шляхціцы-добраахвотнікі з Вялікай Польшчы — усяго каля 2,5 тысячы вершнікаў.

Паводле больш дакладных звестак М.К. Любаўскага, які спасылаўся не на хронікі і летапісы, а на польскія архіўныя дакументы, польскай конніцы і пяхоты было не больш як 4 тысячы, бо значная частка іх засталася ў Берасці. Прысутнічала і артылерыя, але колькасць гарматаў невядомая. 4 тысячы вояроў Жыгімонт пакінуў сабе ў Барысаве, а астатнюю, найбольшую частку войска (больш за 30 тысяч чалавек) пад агульным камандаваннем князя Канстанціна Астрожскага ён накіроўваў да Оршы.

Расійскі гісторык С.М. Салаўёў адзначыў, што ў маскоўскіх ваяводаў было 80 тысячаў войска, а ў князя Канстанціна Астрожскага — не болей за 30 тысяч. Гэтыя лічбы прыводзіцца як у хроніках М. Стрыйкоўскага і А. Гваньіні. Згаджаюцца з гэтымі лічбамі і вайсковыя гісторыкі пачатку XX стагоддзя.

У будучай Аршанскай бітве ўдзельнічалі і войскі з беларускай правінцыі, з удзельных княстваў. Так, са сваім вялікім атрадам удзельнічаў князь Юрый Сямёнавіч Алелькавіч (каля 1492–1542), малады і ўжо дасведчаны князь, сын знакамітай княгіні слуцкай Настассі Іванаўны. У бітве ўдзельнічаў і адзін з камандзіраў, вядомы па архіве Вялікага Княства Літоўскага «баярын княгіні слуцкай Юхно Грыцкевіч (продак аўтара гэтых радкоў) з гербам «Харугвы». Ю. Грыцкевіч раней удзельнічаў у бітвах з крымскімі татарамі ў складзе слуцкага апалчэння.

Першы бой адбыўся 27 жніўня 1514 года на левым беразе Бярэзіны пры пераправе цераз раку войска князя Астрожскага. Папярэдне К. Астрожскі правёў артылерыйскую стральбу з гарматаў і гаўбіц (пішчаляў), нанёсшы страты непрыяцелю (каля 1300 маскоўскіх вояроў былі забіты). На наступны дзень авангард арміі Астрожскага нанёс паражэнне рускім атрадам у баі над ракою Бобр і 1 верасня 1514 года дасягнуў ракі Друць. Тут атрады Івана Багданавіча Сапегі нанеслі паражэнне тром маскоўскім палкам. Было забіта некалькі соцень чалавек, шмат узята ў палон.

Тады галоўны маскоўскі ваявода Іван Чаляднін з усімі сваімі войскамі адступіў назад за Дняпро і выбраў для генеральнай бітвы добрае месца на левым беразе Дняпра. Тут, паміж Оршай і Дуброўнай, і размясцілася маскоўскае войска — на ўзгорках каля вёсак Пугайлава і Рукліна, злева ад прастору для непрыяцеля ў лукавіне Дняпра на яго левым беразе каля Оршы.

7 верасня 1514 года войска Астрожскага наблізілася да Дняпра ў раёне Оршы. Ён вырашыў даць бітву, нягледзячы на амаль утрая большую перавагу маскоўскага войска.

Князь разлічваў на некалькі фактараў: свой камандны досвед у шматлікіх бітвах, веданне праціўніка, з якім раней змагаўся (а ў 1500-м нават быў у яго ў палоне), баявы досвед свайго войска, удасканалены ў частых баях з крымскімі татарамі, патрыятызм беларускіх вояроў, якія баранілі зямлю ад спусташэнняў маскоўскіх войскаў. Канстанцін Астрожскі, заклікаючы рыцараў да бою і перамогі, спасылаўся на іх праваслаўныя пачуцці, бо большасць у яго войску складалі праваслаўныя беларусы.

Наблізіўшыся да месца, дзе ўжо знаходзілася маскоўскае войска, К. Астрожскі вырашыў не рызыкаваць, бо пераправу праз раку пільнавалі конныя атрады ворага. Не жадаючы фарсіраваць раку пад стрэламі маскоўскіх лучнікаў, гетман правёў тут дэманстрацыйны манеўр, намагаючыся паказаць Чаляднiну, што пераправа беларуска-літоўскай арміі адбудзецца менавіта тут. Астрожскі пад заслонай сваіх жаўнераў пераправіў уброд у гэтым месцы толькі некалькі тысяч коннікаў. А ўжо ўвечары Астрожскі перасунуў па віцебскай дарозе ўсё сваё войска крыху на поўнач і спыніўся на правым беразе Дняпра.

Уначы з 7 на 8 верасня Астрожскі загадаў пабудаваць цераз Дняпро два пантонныя масты. Для пераправы таксама скарысталі плыты і лодкі з суцэльным насцілам з плеценага чароту, каб колы гарматаў не грукалі. У балоцістых мясцінах ля ракі зрабілі гаці з паваленых і звязаных дрэў. Конніца войска Астрожскага пераправілася праз Дняпро па вузенькім бродзе ля аршанскай крэпасці або ўплаў, страціўшы пры гэтым толькі аднаго конніка, які патануў.

На працягу ночы была перапраўлена ўся пяхота і артылерыя войска ВКЛ у раён вёскі Пашына. Чаляднін даведаўся пра гэта са спазненнем. Іншыя маскоўскія ваяводы раілі яму напасці на частку літоўскага войска і знішчыць яго, карыстаючыся колькаснай перавагай. Аднак Чаляднін не згадзіўся, адказаўшы ім, што нават пасля разгрому гэтай часткі літоўскага войска застанецца яшчэ другая частка, да якой могуць далучыцца іншыя войскі ВКЛ, што было б небяспечна для маскоўскай арміі. Ён меркаваў, што ў выпадку бітвы з усім войскам Астрожскага можа надарыцца магчымасць знішчыць непрыяцеля цалкам або, абкружыўшы яго, пагнаць рэшткі да Масквы ў няволю. А пасля перамогі можна будзе заняць усё ВКЛ.

Бітва ў полі на беразе Дняпра, за пяць вёрст ад Оршы, адбылася 8 верасня 1514 года. Лёгкай беларускай конніцай на левым флангу камандаваў падчашы літоўскі і ваявода гарадзенскі Юрый Мікалаевіч Радзівіл (каля 1480 — красавік 1541 г.), які меў маёнткі ў Беларусі ў Ашмянскім, Гарадзенскім, Лідскім і Мінскім паветах. Наёмным войскам з Польшчы — кашталян бецкі Януш Сврчоўскі, надворным каралеўскім войскам і атрадамі паноў — Войцех Сампалінскі. Усе яны мелі вялікія баявы досвед у бітвах супраць крымскіх татараў.

Чаляднін паставіў усё сваё войска ў баявы парадак у тры расцягнутыя лініі. На флангах — конныя атрады, каб падчас бою яны зайшлі ў тыл ворага.

Наперадзе стаяў полк перадавой стражы. У цэнтры — маскоўскі вялікі полк, па фронце, шырынёю 5 кіламетраў. На правым флангу стаяў полк правай рукі, на левым, каля вёскі Рукліна, — полк левай рукі. На пагорку ў цэнтры, за вялікім палкам, стаяў полк тылавой стражы (рэзерву). Маскоўскае войска стала пад белым сцягам.




План Анатоля Грыцкевіча практычна тоесны плану Хербста і Валіцкага




План Аршанскай бітвы з «Ваеннай энцыклапеды», (т. XVII, Петраград, 1914). Аўтар тут сумясціў у адным плане тры разначасовыя фазы бітвы



План Аршанскай бітвы Станіслава Хербста і Міхаіла Валіцкага

# незалежнасць

Бітва адбывалася на полі ў тры кіламетры ўздоўж Дняпра, за 200–400 метраў ад берага ў першай фазе бітвы і за тры з паловай кіламетры ў другой яе фазе. Углыб абодвух франтоў поле бою таксама складала прыблізна тры кіламетры. Пры гэтым трэба адзначыць, што не ўсе войскі займалі гэтую прастору. Частка з іх уводзілася ў бой паступова. Як бачна па карціне «Бітва пад Оршай», шэрагі вояроў былі шчыльныя, як таго патрабавала тагачасная вайсковая тактыка.

Усе маскоўскія палкі былі конныя. Цяжкіх гарматаў маскоўскія войскі не мелі, бо вялікі князь Васіль III загадаў пакінуць іх у захопленых замках, каб адстаяць іх пры нагодзе. Як сведчыць М.М. Карамзін, «Чаляднін расцягнуў свае сілы таму, што яны ўтрая перавышалі сілы Астрожскага. Ён хацеў акружыць праціўніка, разбіць яго і скінуць рэшткі разбітых палкоў у Дняпро. Таму маскоўскае войска расцягнулася па лініях, і стварылася магчымасць перарваць іх. Аднак адзіны сапраўдны кіраўнік у расійскім войску адсутнічаў, бо Іван Чаляднін быў толькі фармальным галоўнакамандуючым, а кожны з двух галоўных ваяводаў камандаваў сваімі войскамі асобна. Гэта паўплывала на ход і вынікі бітвы пад Оршай. Адбілася на ходзе бітвы і тое, што яны, заспакоеныя сваёй колькаснай перавагай, былі ўпэўненыя ў перамозе над непрыяцелем. Таму маскоўскія галоўныя ваяводы і ваяводы меншага рангу своечасова, падчас бітвы, не заўважылі небяспекі, а калі яна выявілася, то было ўжо позна».

Атрады Астрожскага занялі свае пазіцыі па абодвух баках яра, які ішоў ад вёскі Пугайлава да пераправы цераз Дняпро. Яны сталі паводле свайго старога баявога звычаю. Напярэдзе знаходзіліся два конныя палкі (гуфы) конніцы. Паміж імі стаяла пяхота са стрэльбамі і пішчалямі. На правым і левым крылах гэтага войска стаялі па тры дапаможныя палкі беларускай і польскай конніцы. На краі правага крыла войска паставілі пад аховай лесу ва ўкрыцці ўсе гарматы і частку пяхоты з рушніцамі (пішчалямі, самапаламі). Усё войска Астрожскага было сцягнута ў моцныя і згуртаваныя атрады, гатовыя прабіць расцягнутыя лініі ворага.

Падчас бітвы войска выступала пад дзяржаўным сцягам Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — чырвоным сцягам з срэбнай выявай Пагоні і на адваротным баку з выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам. Гетманскі сцяг быў блакітнага колеру. З аднаго боку на ім была Пагоня ў чырвоным полі, з другога — абраз святога Станіслава. Асобныя паны мелі ў атрадах (дружынах) свае сцягі.

У кожнага з беларускіх вершнікаў можна пабачыць (у карціне «Бітва пад Оршай») у руцэ доўгую дзіду з белым сцяжком-вымпелам, уздоўж якога пасярэдзіне праходзіла адна вузкая чырвоная палоска, якая перакрыжоўвацца бліжэй да дрэўца другой чырвонай палоскай. Гэта прадвеснік нашага бел-чырвона-белага сцяга.

Як заўсёды гэта рабілася перад бітвай, святары з абодвух бакоў адслужылі малебен за перамогу. Пры гэтым трэба нагадаць, што ў беларуска-літоўскім войску, як і ў маскоўскім, за перамогу маліліся праваслаўныя святары. У Беларусі была свая, незалежная ад маскоўскага мітрапаліта, праваслаўная царква. Астрожскі быў праваслаўным. У атрадах ягонага войска маліліся і ксяндзы, бо ў ім было нямала і каталікоў, не кажучы ўжо пра польскія атрады.

Пасля гэтага пачаліся «гарцы» — асобныя паядынкі паміж вершнікамі з абодвух бакоў, каб заахвоціць астатніх вояроў да бою.

Пасля кароткай нарады з ваяводамі і невялікай прамовы да войска Астрожскі загадаў конным палкам вольна рушыць наперад.

Гэтае прасоўванне наперад маскоўскія ваяводы палічылі сігналам да дзеяння. На левае крыло войска ВКЛ быў накіраваны полк правай рукі на чале з князем Міхаілам Іванавічам Голіцам. Асобныя атрады Чаляднін паслаў на флангі, каб зайсці ў тыл ворагу. Конніцу маскоўскага ваяводы сустрэлі беларускія рыцары на чале з самім Канстанцінам Астрожскім, якія, як сведчыць аўтар хронікі М. Стрыйкоўскі, далі мужны адпор маскоўскім вершнікам. Астрожскі звярнуўся да свайго войска з заклікам ісці наперад.

Адбіўшы атаку непрыяцеля, беларуска-літоўскія ваяры, якія атрымалі падмацаванне, самі пачалі наступаць. Конніца Сампалінскага, праскочыўшы галопам перад франтам беларуска-літоўскага палка, што стаяў у цэнтры, нанесла ворагу ўдар па флангу. Польскія коннікі з доўгімі дзідамі валілі з коней маскоўскіх вояроў. Князь Міхаіл Булгакаў-Голіца атрымаў падмацаванне і ўзнавіў шэрагі свайго войска. Маскоўскія сілы пачалі другую атаку. Рыцары ВКЛ устаялі. Але нечакана яны расступіліся. І вораг апынуўся перад пяхотай. Пяхота, страляючы з рушніц (пішчаляў), збіла з коней шмат маскоўцаў. Шэрагі маскоўскага палка памяшаліся. У гэты момант Канстанцін Астрожскі павёў у контратаку свой галоўны полк, перад тым звярнуўшыся да рыцараў: «Гэй! Вось цяпер наперад, дзеці!» Астрожскі заклікаў усіх ісці смела ў бой за ім, бо ён ставіць сваю галаву ў ахвяру і першы ідзе ў атаку на ворага з шабляй у руцэ, каб шаблю акрываваць. Ён нагадаў рыцарам пра слаўныя бітвы іх продкаў, і каб яны чуліся сынамі сваіх бацькоў. Асаблівасці гэтай прамовы, перададзенай польскім храністам М. Стрыйкоўскім, паказваюць, што яна была сказана па-беларуску. Гэтая прамова славутага палкаводца станоўча ўздзейнічала на воінаў. Яны рушылі ў атаку. Пачалася жорсткая бітва.

Урэшце маскоўская конніца Булгакава-Голіцы была зламаная, разбіта і ў беспарадку кінулася наўцёкі. Беларуска-літоўская кавалерыя ўварвалася ў другую лінію расійскага войска. Разам з ёю дзейнічала і цяжкая польская конніца. Яны гналі рэшткі маскоўскага палка правай рукі і, даганяючы, забівалі ўжо няздольных весці бой.

Чаляднін са сваімі асноўнымі сіламі на дапамогу Булгакаву-Голіцы не прыйшоў. Храністы, летапісцы і гісторыкі тлумачаць гэткія дзіўныя паводзіны Чаляднiна суперніцтвам паміж маскоўскімі галоўнымі ваяводамі і жаданнем кожнага з іх атрымаць перамогу самастойна.

Яшчэ раней Чаляднін накіраваў свой полк левай рукі ў наступ на супрацьлеглае, правае, крыло войска Канстанціна Астрожскага. Аднак наступ гэты быў не вельмі моцны, што дало магчымасць войску ВКЛ ударыць па палку Голіцы. Тым не менш Чаляднін нават не кінуў на свой правы фланг ні вялікі (галоўны) полк, ні полк тылавой стражы, ні нават атрады перадавога палка, што адышоў у пачатку бітвы на другую лінію. Чаляднін не пераходзіў у рашучы наступ, чакаючы моманту, калі ў бой супраць палка левай рукі ўцягнуцца (пасля перамогі над палком Булгакава-Голіцы) конныя атрады К. Астрожскага, В. Сампалінскага і харугвы лёгкай беларуска-літоўскай кавалерыі. Вось тады з дапамогаю свежых сілаў, лічыў ён, можна будзе адным моцным ударам разбіць непрыяцеля.

У нейкі момант Чаляднiну здалося, што ён перамагае ў бітве. Ён убачыў, што беларуска-літоўская і польская конніца спыніла свае контратакі і па загаду Астрожскага пачала адступаць, а потым зусім кінулася ўцякаць. Чаляднін кінуў у бой усе свае сілы. Але ў пэўны момант, недалёка ад лесу і кустоў у тыле беларуска-літоўскай арміі, ужо ля Дняпра, адступаючы, конніца падзялілася на дзве часткі, якія хутка скочылі ўбок. Уся бязладная маса маскоўскіх вершнікаў аказалася перад артылерыяй і пяхотай, што былі ў кустах на ўскраіне лесу і ўжо даўно падрыхтаваліся да аднаго моцнага залпу. Маскоўскія атрады панеслі вялікія страты ў людзях і конях. Гэтая вайсковая хітрасць, якую прымяніў Астрожскі яшчэ ў бітве з крымскімі татарамі 28 красавіка 1512 года каля Вішнявца ва Украіне, і была пераломным момантам бітвы пад Оршай. Пасля расстрэлу гарматамі лавіны маскоўскага войска ў яго шэрагах пачалася паніка, і яно ўсё кінулася наўцёкі. Пачалося іх пераследаванне.

Пасол германскага імператара да маскоўскага вялікага князя Васіля III барон Сігізмунд Герберштэйн, які наведаў у Вільні на пачатку 1517 года (калі ехаў у Маскву) палонных І.А. Чаляднiна і М.І. Булгакава-Голіцу і размаўляў з імі пра бітву пад Оршай, расказваў у сваіх запісах: «Літоўцы, наўмысна адступіўшы да таго месца, дзе ў іх былі схаваныя гарматы, накіравалі іх супраць маскавітаў, якія насядалі, і паразілі іх заднія шэрагі, што выстраіліся ў рэзерве, але занадта скучаныя, унеслі замяшанне ў іх шэрагі і рассеялі. Такі нечаканы баявы прыём прывёў маскавітаў у жах, яны кінуліся наўцёкі. Літоўцы, разгарнуўшыся і накіраваўшы ўсе свае сілы, пераследавалі іх, гналі і забівалі. Толькі ноч і лясы спынілі гэтае вынішчэнне».

Стрыйкоўскі таксама прыводзіў жахлівыя дэталі гэтых уцёкаў: адны ўцякалі ў лясы, другія — у балоты. Але беларуска-літоўскія і польскія вершнікі гналі іх і забівалі. Кроў забітых была не толькі на палях, але і сцякала ў раку Крапіўну, вада ў якой стала крывавай. Шмат маскавітаў падчас уцёкаў патанула. Беларуска-літоўскія коннікі пераследавалі ворага ажно восем літоўскіх міляў (г.зн. 60 кіламетраў). Адны з беларуска-літоўскіх вершнікаў вярнуліся назад апоўначы, другія нават назаўтра. З сабой яны вялі вялікую колькасць палонных.

М.М. Карамзін у «Истории государства Российского» адзначыў: «Літоўцы ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і Крапіўне, целамі ўсеялі палі паміж Оршай і Дуброўнай... Мы страцілі трыццаць тысяч воінаў: ноч і лясы выратавалі астатніх». Стрыйкоўскі, спасылаючыся на звесткі маскоўскіх палонных, пісаў, што на полі бою і на розных месцах падчас уцёкаў засталося больш за сорак тысяч забітых маскавітаў, акрамя тых, што патанулі ў Крапіўне; таму мала іх выратавалася. Паводле М. Бельскага, сорак тысяч «Масквы» забіта ў гэтай бітве.

Стрыйкоўскі зазначыў, што ў войску Астрожскага загінулі чатыры паны, а простых жаўнераў і шляхты крыху болей за чатырыста. Затое было шмат параненых.

На наступны дзень пасля бітвы быў адслужаны праваслаўны малебен у «гонар святой Тройцы і на хвалу Пану Богу» і каталіцкі малебен. Падчас урачыстага абеду, на які былі прыведзены палонныя ваяводы, Канстанцін Астрожскі павіншаваў сваіх ваяводаў, ротмістраў і рыцараў з перамогай. 3 снежня 1514 года Жыгімонт Казіміравіч наладзіў у Вільні ўрачысты прыём у гонар князя К.І. Астрожскага і рыцараў-пераможцаў.

Пасля перамогі пад Оршай усіх палонных ваяводаў, вайсковых камандзіраў і 380 баярскіх дзяцей адаслалі ў Барысаў да караля і вялікага князя Жыгімонта. Палонных «простага стану» разабралі шляхта і жаўнеры, каб асадзіць іх у сваіх маёнтках. Дзясяткі гадоў заставаліся палонныя ў Вільні і іншых гарадах, крэпасцях і валасцях Вялікага Княства Літоўскага. Вялікі князь Васіль Іванавіч заявіў, што для яго «той, хто трапіў у палон, — мёртвы». Іван Андрэевіч Чаляднін памёр у Вільні ў 1516-м, М.І. Булгакаў-Голіца і князь Іван Сямёнавіч Селяхоўскі вярнуліся на радзіму толькі ў 1552-м, дзе Булгакаў-Голіца памёр манахам пад імем Іона праз два гады.

Адразу пасля бітвы Дуброўна, Мсціслаў і Крычаў перайшлі на бок вялікага князя Жыгімонта. Ваенныя дзеянні прынялі зацяжны характар. Урэшце пасля доўгіх перамоваў у Маскве 9 верасня 1522 года было заключана перамір'е.

Калі князь Астрожскі вярнуўся ў Вільню, то зрабіў багатую фундацыю (уклад) царкве Свята-Духаўскага манастыра ў падзяку Богу за дараваную яму пад Оршай перамогу «над непрыяцелем і супастатам праваслаўнай царквы» — вялікім князем маскоўскім. Званку царквы была прымацавана мармуровая дошка з надпісам па-беларуску пра фундацыю К.І. Астрожскага ў гонар Аршанскай перамогі.

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года стала вядомай у Еўропе. Жыгімонт Казіміравіч абвясціў пра перамогу рымскаму папе Льву X і ўсім буйным гаспадарам Еўропы. На стагоддзі захавалася памяць пра гэтую слаўную перамогу і ў Беларусі. І толькі ў XX стагоддзі савецкая гістарычная навука зрабіла ўсё, каб людзі пра яе забыліся.

Беларускія адраджэнцы пачалі ў 90-х гадах XX стагоддзя святкаваць дзень Аршанскай перамогі. 8 верасня 1992 года на плошчы Незалежнасці ў Мінску афіцэры Беларусі, а таксама афіцэры запасу і ў адстаўцы прынеслі вайсковую прысягу на вернасць свайму народу. З таго часу дзень 8 верасня з'яўляецца Днём беларускай вайсковай славы ў нацыянальным календары.



Савецкая гістарычная навука зрабіла ўсё, каб людзі забыліся пра слаўную бітву пад Оршай

**(Артыкул складзены на аснове артыкулу: Грыцкевіч А. Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г., стар. 574–588, у кнізе: Анатоль Грыцкевіч. Выбранае, Мінск, «Кнігазбор», 2012).**

# «Камяніца – 2014»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Арганізатары аднаго з самых яскравых фолкавых open-air Беларусі — фэста «Камяніца», які штогод адбываецца ў Музеі народнай архітэктуры і побыту пры падтрымцы генеральнага партнёра ААТ «Банк БелВЭБ», — да апошняга не паведамлялі пра тое, хто ў гэтым годзе стане ўдзельнікам, а тым больш хэдлайнерам музычнага мерапрыемства. Гэта тлумачылася нявызначанасцю каляндарнага плана многіх артыстаў як у Беларусі, так і за яе межамі.**

Але тэрмін надышоў, і фолк-выканаўцы, гурты выказалі сваё слова адносна ўдзелу ў фолк-фэсце «Камяніца». Сёлета яны прадстаўляюць пяць краін: Беларусь, Украіну, Расію, Польшчу і Чэхію.

Калі браць айчынных выканаўцаў, дык бараніць гонар беларускага фолк-мадэрну выпала такім прызнаным майстрам, як легендарныя «Троіца» і «KRIWI» з чароўнай Веранікай Кругловай. Больш маладую плынь прадставіць электронны праект «Shuma», які будзе выступаць з падтрымкай светлавога шоў, і гурт «Re1ikt» — нядаўні пераможца фэсту «Амбасовішча». Гэтым разам «Re1ikt» не будзе граць свой магістральны post-metal, а прадставяць старыя і новыя фолк-кампазіцыі ў акустычным выкананні. На малой сцэне таксама выступяць фолк-гурты «Рада», «Горынь» і «Ягорава гара», а на вялікай сцэне — фолк-тэатр «Яварына».

Акрамя айчынных выканаўцаў на «Камяніцы–2014» будуць «Ahmed Ma Hlad» з Чэхіі і украінцы з гурта «Бандурбэнд», а таксама госці з Расіі — «Отава-Ё», якія апрацоўваюць і выконваюць фолк у стылі r-&-b. А вось Караліна Ціха і Бартэк Палыга — вядомыя фолк-музыканты з Польшчы — прадставяць беларускім слухачам сваю ўнікальную шматмоўную праграму.

Памятаючы поспех мінулых фестывальных падзей, адным з галоўных хэдлайнераў арганізатары фэсту зноў запрасілі знакамітага ўкраінскага выканаўцу, лідара гурта «Воплі Відаплясова» Алега Скрыпку. Алег выступіць перад беларускай публікай з адмысловым DJ-сэтам. Сапраўды, Алег Скрыпка стаў адным з самых любімых артыстаў беларускіх слухачоў, і ў гэтым можна будзе пераканацца яшчэ раз!

Нагадаем, што ўсе сродкі, якія паступяць на рахунак арганізатараў ад продажу білетаў, будуць накіраваныя на рэканструкцыю і захаванне экспанатаў Музея народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Азярцо (4 км за аўтарынкам «Малінаўка»). Кошт білета на фестываль — 60 тысяч беларускіх рублёў.




# Патрыятызм поруч з высокім мастацтвам

Аляксей ХАДЫКА

**З 1 жніўня па 31 кастрычніка 2014 года дэманструецца 8 паясоў з прыватнай калекцыі. А да іх яшчэ — жупан і кунтуш, традыцыйнае беларускае шляхецкае адзенне, якое і падпярэзвалася тканымі «на персідскі манер», на «персіярнях», паясамі.**

Ужо некалькі год запар Нацыянальны мастацкі музей сістэматычна абнаўляе размешчаную ў залах старога беларускага мастацтва экспазіцыю кунтушовых паясоў. Яны больш за ўсё вядомыя па прадукцыі слуцкай мануфактуры XVIII–XIX стагоддзяў і сёння пераважна захоўваюцца ў калекцыях па-за межамі Беларусі. Таму наведвальнікі музея ўжо змаглі пабачыць творы з Масквы, Вільні, Варшавы, як і цікавы партрэт шляхціца пэндзля Валенція Ваньковіча, дзе мадэль апранутая якраз у слуцкі пояс (з віленскага музея).

Прычына ўвагі да кунтушовых паясоў зразумелая. Па словах загадчыцы аддзела старажытнабеларускага мастацтва НММ РБ Алены Карпенкі, «Кунтушовыя паясы — унікальная з'ява нацыянальнай мастацкай культуры. Цяжка пераацаніць уклад беларускіх майстроў у гісторыю заходнееўрапейскага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Развіты мастацкі густ, прыроднае пачуццё колеру, своеасаблівая вытанчаная арнаментыка, кампазіцыйная гармонія паясоў ставяць іх у адзін шэраг з самымі высокімі дасягненнямі сусветнай мастацкай культуры».

Гэтым разам — унікальны выпадак — з 1 жніўня па 31 кастрычніка 2014 года дэманструецца 8 паясоў з прыватнай калекцыі. А да іх яшчэ — жупан і кунтуш, традыцыйнае беларускае шляхецкае адзенне, якое і падпярэзвалася тканымі «на персідскі манер», на «персіярнях», паясамі. Адзін пояс маркіраваны знакам Слуцкай мануфактуры, два — работы Купавінскай мануфактуры Маскоўскай губерні, яшчэ некалькі зроблены на слуцкі ўзор у іншых мануфактурах Беларусі, Украіны і Польшчы (слуцкія лічыліся самымі якаснымі паясамі).

Але суперсенсацыя — жупан і кунтуш, аснова шляхецкай вопраткі, — а яе немагчыма пабачыць у іншых музеях Беларусі: папросту ў краіне яе ўзораў не захавалася. І хаця гэта вырабы XIX стагоддзя паводле класічных прыкладаў XVII–XVIII стагоддзяў, яны ўсё роўна ўнікальныя. Тым больш, што зварот да традыцыйнай моды на акупаваных Расіяй землях Беларусі ў XIX стагоддзі адбываўся на хвалі патрыятычных уздымаў у час нацыянальна-вызваленчых паўстанняў 1830–1831 і 1863 гадоў.



Запрашаем у Нацыянальны мастацкі — новая экспазіцыя кунтушовых паясоў — добрая нагода наведаць і іншыя яго залы.

# Адзенне «Honar» і гурт «TerraKod» прэзентавалі вопратку з «Берагіняй»

Алесь ПЛОТКА

**Вытворца беларускага адзення «Honar» і рок-гурт «TerraKod» прэзентавалі адмысловую лінію вопраткі.**

Серыя мужчынскіх кашуляў была створаная пры выкарыстанні апошняга інтэлектуальнага айчыннага ноў-хаў — унікальнага шрыфту «Берагіня», створанага Міхаілам Баярыным. Прэзентацыя адбылася падчас выступу гурта на штогадовым амерыканска-беларускім фестывалі «Амбасовішча». Для абодвух бакоў супраца стала першым досведам эндорсмэнта.

Каментуе кіраўнік «Honar» Павел Доўнар: «З'яўленне падобнай лініі — цалкам лагічная з'ява, бо ўсё болей людзей сёння шукаюць вопратку ў нацыянальным ключы, але з нейкай адметнасцю. Каб пашырыць гарызонты для ідэяў, мы зрабілі такі наглядны прыклад — апранулі сучасных рокераў у мадэрновыя беларускія кашулі. Прыемна даць прамоцыю



новаму беларускаму шрыфту і скарыстацца менавіта ім, каб зрабіць іх іменнымі. Па выніку маем прадукт, які быў інспіраваны, створаны і рэкламуецца беларусамі. 100% беларускага і сучаснага».

Шрыфт «Берагіня» распрацаваны філосафам Міхаілам Баярыным. Уяўляе сабой стылізацыю кірылічнага і лацінскага алфавіту пад узоры беларускага арнаменту. Стыль «Берагіні» натхнёны ўзорнай паласой паясоў і ручнікоў. «Берагіня» змяшчае набор кірылічных літараў, неабходных для ўжывання ў беларускай мове, і набор лацінскага алфавіту, дастатковы для ўжывання ў беларускай лацінскай транслітэрацыі. Шрыфт распаўсюджваецца свабодна для некамерцыйнага выкарыстання пад умовамі ліцэнзіі SIL Open Font License. Сцягнуць шрыфт можна на сайце стваральніка.

Выбар тлумачыць вакаліст «TerraKod» Байсан: «Калі нейкая з'ява становіцца трэндам, то на яе целе адразу з'яўляецца вялікая колькасць прапаноў — і добрых, і так сабе. Нам хацелася падтрымаць якасны падыход да вопраткі, таму мы «прайшліся па базару», паглядзелі, якая прапанова ёсць, і спыніліся на той, якая адпавядала нашаму разуменню слова «якасць». Я, як мужчына, да выбару вопраткі падыходжу практычна — яе не трэба шмат, але яна мусіць быць крутой у сваёй лаканічнасці. Таму з «Honarам» у нас усё сышлося».

Брэнд «Honar» стварае моднае адзенне, якое адрозніваецца ад аўтэнтычнай беларускай вопраткі. Існуе пад лозунгам: «Honar pavinien być», і пры стварэнні вопраткі карыстаецца выключна ручной працай. «TerraKod» — фолк-метал гурт з Берасця. Музыкі выконваюць цяжкую гітарную музыку з нязменнай дудой і гендэрна роўнай вакальнай парай наперадзе.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 1186

Падпісана да друку 05.09.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.